Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4882) 5 жніўня 2016 г.



# «У РОДНЫМ КРАІ ЁСЦЬ КРЫНІЦА ЖЫВОЙ ВАДЫ...»






Фота Кастуся Дробава і Кацярыны Байдак.

*Падымі ўгару свае вока,*
*І ты будзеш ізноў, як дзіця,*
*І адыйдуць-адлынуць далёка*
*Ўсе трывогі зямнога жыцця.*

*Ціха тучу блакіт закалыша,*
*у душы адрасце пара крыл, —*
*узляціць яна ў сінюю вышу*
*і ў струях яе змые свой пыл.*



Загадчыца фальварка Настасся Сярболіна перадае хлеб-соль Маргарыце Пыровай.

**Нядзельнай ліпеньскай раніцай маладзечанская зямля гасцінна сустрэла пісьменнікаў і аматараў творчасці беларускага класіка Максіма Багдановіча, якія прыехалі далучыцца да жыццядайнай крыніцы натхнення, пахадзіць па сцежках, што памятаюць Максімавы крокі. Надвор'е спрыяла добраму настрою: сонца грэла, а не паліла, навальніцы вырашылі адпачываць, прыберагчы сілы на потым, ласкавы ветрык прыносіў свежасць і лёгкую прахалоду. Над ваколіцай стаяў ледзь улоўны водар ружовай акацыі, змяшаны з пахамі сакавітых летніх траў. Маляўнічыя далягляды цешылі зрок, разліваліся галасы птушак дзесьці высока…**

Ці не ракуцёўскімі краявідамі навеяныя радкі Максіма Багдановіча, якія апісваюць узнёслы настрой летняга дня? Прайшло сто пяць гадоў з таго часу, як геній зямлі беларускай (а тады пачынаючы паэт) вярнуўся на Радзіму, з якой разлучыўся яшчэ ў дзіцячым узросце.

...Год 1911 быў для маладога Багдановіча вызначальным: ён скончыў гімназію і мусіў вырашаць, з чым звязаць лёс, куды паступаць вучыцца. У рэдакцыі штотыднёвіка «Наша ніва», дзе яго творы пастаянна друкаваліся, прапанавалі ехаць у Пецярбургскі ўніверсітэт да прафесара Аляксея Шахматава, сусветна вядомага мовазнаўцы. Той накіраваў запыт, каб да яго прыслалі маладога чалавека, здольнага да вывучэння моў. Перспектыўнай было ўзначаліць кафедру беларусазнаўства.

Працяг на 3-й стар.

## Пункціраm

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванне родным і блізкім пісьменніка Фазіля Іскандэра ў сувязі з яго смерцю. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі Фазіль Іскандэр вядомы як адзін з найвялікшых пісьменнікаў сучаснасці, чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. «Фазіль Абдулавіч тонка спалучаў у сваёй дзейнасці дараванні філосафа і паэта. Жыццёвая мудрасць, якой напоўнены яго творы, прымушала чытачоў розных пакаленняў па-іншаму глядзець на свет, шукаць у сабе і ў іншых адказы на адвечныя пытанні. Яго творчасць стала неад'емнай часткай скарбніцы сусветнай літаратуры», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Мікалая Бурляева з 70-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі артыст карыстаецца заслужаным аўтарытэтам. «Шматгранны талент, адданасць справе і мэтанакіраванасць дазволілі Вам дасягнуць вышынь прафесійнага майстэрства, поўнасцю рэалізаваць творчы патэнцыял, заслужыць любоў і прызнанне калег і гледачоў», — адзначана ў віншаванні. Прэзідэнт Беларусі перакананы, што плённая дзейнасць Мікалая Бурляева і ў далейшым будзе садзейнічаць развіццю культурнага супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі і Расіі.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку РСФСР Наталлю Белахвосцікаву. «Любоў да Вашай творчасці аб'ядноўвае гледачоў розных пакаленняў і краін. Маючы рэдкі акцёрскі талент, высокае майстэрства і бездакорны мастацкі густ, Вы ўвасобілі на экране цудоўныя жаночыя вобразы і па праве заслужылі павагу калег і шырокай публікі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку СССР Іну Макараву. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі Іну Макараву ведаюць і любяць як таленавітую актрысу, надзеленую нязменнай шчырасцю і абаяннем. «Вы належыце да выдатнай плеяды акцёраў, без якіх цяжка ўявіць сучаснае мастацтва. Фільмы і спектаклі з Вашым удзелам сталі класікай і не перастаюць захапляць сапраўдных знаўцаў прыгожага», — адзначыў Прэзідэнт Беларусі.

✔ Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Рагачове арганізуюць тэлемост з гарадамі-пабрацімамі сталіцы літаратурнага свята, падрыхтоўка да якога ідзе актыўнымі тэмпамі. Гасцей чакае шмат цікавых мерапрыемстваў: навукова-практычная канферэнцыя, выстаўка СМІ, свята літаратурных дажынак, адмысловыя выстаўкі, назвы якіх прыемна здзіўляць прыхільнікаў прыгожага пісьменства, зазначыла начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама Ірына Даўгала.

✔ У фондах Белтэлерадыёкампаніі захавалася шмат матэрыялаў з удзелам Расціслава Янкоўскага. Канал «Беларусь 3» прапануе гледачам 7 жніўня спецыяльны выпуск праекта «Майстры і куміры», прысвечаны памяці выдатнага беларускага акцёра. Госцем праграмы стане прафесар і аўтар кніг па гісторыі беларускага тэатра Тацццяна Арлова.

✔ У Мінску, у Верхнім горадзе, у жніўні адбудуцца чатыры фестывалі нацыянальных культур, якія становяцца традыцыйнымі. Фэсты польскай, карэйскай, украінскай культуры і грузінскае свята «Тбілісоба» з майстар-класамі і канцэртамі. Паводле дырэктара КУП «Мінская спадчына» Паўла Шыкунца, да Дня горада ў скверы на плошчы Свабоды запланавана ўстанавіць скульптурную кампазіцыю «Жыхары Мінска XIX стагоддзя: кампазітар Станіслаў Манюшка і драматург Дунін-Марцінкевіч — стваральнікі беларускай нацыянальнай класічнай оперы».

# Творчы выбар

## Вынікі ўступнай кампаніі ў ВНУ, што рыхтуюць кадры для галіны культуры



Фота Кастуся Дробава.

Талент + высокія балы — вось што трэба для таго, каб паступіць у творчыя ВНУ. Таму ў шэрагу навучальных устаноў ёсць свае адмысловыя іспыты, да тых, што прадугледжаны дзяржаўным цэнтралізаваным тэсціраваннем. І моладзь гатовая іх праходзіць дзеля ажыццяўлення мараў.

### АД МАСТАКОЎ ДА АКЦЁРАЎ

Адмысловыя экзамены ў **Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў** праходзілі з 15 па 24 ліпеня. Самы высокі бал (з чатырохсот магчымых) — 364. Набралі такую колькасць балаў 2 будучыя студэнты спецыяльнасцей «Акцёрскае мастацтва: драматычны тэатр і кіно» і «Графіка». Працэс падачы дакументаў увогуле такі, як і ў іншых творчых ВНУ: ЦТ па мове, гісторыі Беларусі, атэстат аб агульнай сярэдняй адукацыі або атэстат сярэдняй спецыяльнай адукацыі, але абітурыенты праходзілі творчыя іспыты. На ўмовах мэтавай падрыхтоўкі сёлета абітурыенты не залічваліся. Традыцыйна самы высокі конкурс быў на спецыяльнасць «Акцёрскае мастацтва», паведаміла намеснік адказнага сакратара прыёмнай камісіі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Паліна Ляжанская. Сёлета план набору за кошт бюджэту — 113 чалавек, 34 — на ўмовах аплаты. На завочнае аддзяленне плануецца 8 бюджэтных і 34 платных месцаў. Калі меркаваць па колькасці жадаючых вучыцца, Акадэмія мастацтваў карыстаецца трывалай увагай.

### УВАГА ДА КУЛЬТУРЫ

Напрыканцы ліпеня адбылося залічэнне на вочную бюджэтную форму атрымання адукацыі ў **Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў**. Агульны конкурс сёлета склаў 2,5 чалавека на месца. Дзяўчат, неўзабаве, паступае больш, нават на спецыяльнасць «Рэжысура». Абітурыенты паказалі добры ўзровень падрыхтоўкі. Колькасць жадаючых паступіць значна большая, чым раней. Усяго было пададзена 796 заяў, залічана на дадзены момант — 320 чалавек. Самы высокі прахадны бал аб'яўлены на спецыяльнасцях «Харавая музыка народная» і «Харавая музыка акадэмічная» — 306. «Народная творчасць (тэатр)» — на другім месцы, прахадны бал — 304. Небывалай папулярнасцю карысталася сёлета «Бібліятэчна-інфармацыйная дзейнасць», конкурс на спецыяльнасць склаў 2,1 чалавека на месца, адзначыла адказны сакратар прыёмнай камісіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Юлія Пярсідская. «Рэжысура» сярод абітурыентаў традыцыйна трымае высокія пазіцыі.

**Яўгенія ШЫЦЬКА**

### АВАЛОДАЦЬ МУЗЫЧНЫМ МАЙСТЭРСТВАМ

Каб вучыцца ў прыгожым будынку **Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі** на вуліцы Інтэрнацыянальнай, добрых вынікаў на цэнтралізаваным тэсціраванні і высокіх адзнак у атэстаце мала. Галоўны іспыт чакаў будучых музыкантаў у сценах акадэміі: трыста балаў з магчымых чатырохсот яны павінны былі набраць падчас унутранага творчага экзамену. Самы высокі прахадны (трыста чатырнаццаць балаў) сёлета аказаўся па спецыяльнасці «Спевы (акадэмічныя)». Найвышэйшы конкурс — 2,7 чалавека на месца — таксама належыць акадэмічным спевам. Наступныя па папулярнасці спецыяльнасці — «Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне», «Харэаграфічнае мастацтва» і «Фартэпіяна». Дваццаць шэсць чалавек трапілі ў акадэмію без уступных іспытаў. Сярод іх — лаўрэаты Міжнароднага конкурсу выканаўцаў інструментальнай і вакальна-харавой музыкі імя Я. Глебава. Адзін абітурыент атрымаў Гранд-прэмію спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

— Сёлета сярэдні конкурс у Акадэміі музыкі складае 1,5 чалавека на месца, — распавяла адказны сакратар прыёмнай камісіі Ірына Кузаўкова. — Уступная кампанія прайшла так, як было запланавана: усе спецыяльнасці засталіся запатрабаванымі. Мы лічым гэты год паспяховым.

Падрыхтоўка да ўступнай кампаніі ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пачалася загадзя. Загадчыкі кафедр, выкладчыкі, прадстаўнікі адміністрацыі праводзілі прафарыентаванне, сістэматычна выпраўляліся ў камандзіроўкі, каб сустрэцца з будучымі абітурыентамі ў розных кутках краіны. У лютым — сакавіку штогод ладзіцца дзень адчыненых дзвярэй, дзе юным талентам дакладна паведамляюць, што прапануе Акадэмія музыкі і што чакае ад іх наўзамен падчас уступных іспытаў.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

### ПАПУЛЯРНЫ ДЫЗАЙН

Колькасць жадаючых паступіць на мастацка-графічны факультэт **Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава** не зменшылася ў параўнанні з мінулымі гадамі. Конкурс сёлета склаў 1,1 чалавека на месца. На спецыяльнасць «Выяўленчае мастацтва, чарчэнне і народныя мастацкія промыслы» былі залічаны 22 будучыя студэнты. На гэтую ж спецыяльнасць яшчэ 2 абітурыенты паступілі па мэтавым накіраванні. Прахадны бал на гэтую спецыяльнасць 281. Платных месцаў не прадугледжана. На спецыяльнасць «Дызайн» адведзена 18 бюджэтных і 12 платных месцаў. Гэта самыя папулярныя напрамкі факультэта на цяперашні момант.

**Мастацка-тэхналагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта** карыстаецца вялікай папулярнасцю. Спецыяльнасцей шмат, але сёлета папулярная сярод студэнтаў — «Дызайн». Вучоба на гэтай спецыяльнасці — па чатырох напрамках. На першым месцы па колькасці жадаючых вучыцца па напрамку — «Камунікатыўны дызайн». Самы вялікі бал на факультэце, у які ўваходзіць таксама бал за ўнутраны экзамен «Творчасць» (усяго 3 этапы: малюнак, жывапіс, кампазіцыя), — 330,7. У сярэднім на спецыяльнасці факультэта сёлета прэтэндавалі 2 чалавекі на месца.

Сёлета на **кафедру дызайна факультэта сацыякультурных камунікацый БДУ** па спецыяльнасці «Дызайн» (камунікатыўны дызайн) на дзённую бюджэтную форму навучання залічылі чатырох абітурыентаў (прахадны бал 264), на скарочаны тэрмін навучання — шасцярых абітурыентаў (прахадны бал 152). Каб патрапіць на платную форму навучання, абітурыенты павінны былі набраць не менш за 154 балы. На скарочаны тэрмін навучання па спецыяльнасці «Дызайн» (камунікатыўны дызайн) за ўласныя сродкі былі залічаны ўсе абітурыенты, што падалі дакументы.

На спецыяльнасць «Дызайн прадметна-прастораваага асяроддзя» Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ на дзённую форму навучання за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту залічаны чатыры абітурыенты (прахадны бал 242). На бюджэт па скарочаным тэрміне навучання патрапілі таксама чатыры чалавекі (прахадны бал 206). Прахадны бал на дзённую платную форму навучання сёлета склаў 158 балаў, на скарочаны тэрмін навучання залічылі ўсіх, хто браў удзел у конкурсе.

**Яўгенія ШЫЦЬКА, Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Недасказаны класік

Памяць



«Львы», «Францужанка», «Тартак»… Яго творы не проста хрэстаматыйныя — іх адносяць да класікі беларускай літаратуры. Іван Пташнікаў, майстар кароткай прозы, пісаў няшмат, але кожны яго твор быў падзеяй. Калегі адзначалі, што над навеламі ён працаваў з вялікай дбайнасцю, няспешна. Быў строгім рэдактарам: аддзел прозы часопіса «Полымя» пад яго кіраўніцтвам заўжды трымаў высокую планку.

Патрабавальнасць і ўвага да дэталі, глыбокае веданне прыроды і чуйнасць да чалавека зрабілі яго сапраўды чытаным. Іван Пташнікаў належаў да пасляваеннага «філалагічнага» пакалення, якое дало беларускай літаратуры такіх аўтараў, як Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў, Рыгор Барадулін. І мова твораў Пташнікава — непаўторная, адметная як фармальна, насычанасцю рэгіянальнай лексікай, так і самім сваім духам.

Блізкія і сябры заўважалі, што было ў асобе Івана Пташнікава нешта таямнічае, недагаворанае. Сапраўды, ён не даваў інтэрв'ю — толькі раз парушыў гэты прынцып, пасля перанесенага ў 2005 годзе інсульту і выхаду ў 2009-м кнігі выбранага ў серыі «Школьная бібліятэка» выдавецтва «Мастацкая літаратура». Дзякуючы гэтаму выключэнню мы ведаем, што сваімі настаўнікамі Іван Пташнікаў лічыў найперш Кузьму Чорнага, таксама — Максіма Гарэцкага, а з сучаснікаў называў блізкімі сабе Івана Мележа, Янку Брыля, Васіля Быкава. Ён са скрухай заўважаў, што занадта шмат стала ў сучаснай прозе «непатрэбшчыны», маргінальных апісанняў. Зрэшты, не асуджаў, а толькі задаваўся пытаннем, ці сапраўды гэта патрэбна. А яшчэ прызнаўся, што пасля хваробы не спрабаваў пісаць, цяжка было і чытаць, і ўсё ж у адказе яго: «Многа новага з'явілася ў жыцці. Час падкажа новыя тэмы…» — не было адчаю.

Іван Пташнікаў пакінуў гэты свет 28 ліпеня, на 84-м годзе жыцця.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «У РОДНЫМ КРАІ ЁСЦЬ КРЫНІЦА ЖЫВОЙ ВАДЫ…»

Юны Максім загарэўся гэтай ідэяй, але… пад ціскам бацькі вымушаны быў адмовіцца. Справа ў тым, што ў лёгкіх Максіма ўжо пачаўся туберкулёзны працэс, а сырое піцерскае паветра, лічыў Адам Ягоравіч, шкоднае для хворых на сухоты. Да таго ж у наступным годзе малодшы брат Максіма, Леў, які выяўляў неардынарныя здольнасці ў матэматыцы, меўся паступаць у Маскоўскі ўніверсітэт, а вучыць двух сыноў у розных гарадах было б надзвычай складана для банкаўскага служачага са сціплым заробкам.

Такім чынам, Максім становіцца студэнтам Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя. «Пракурорам быць не хачу, суддзёй не хачу, хачу быць літаратарам ці вучоным», — абураўся ён, але вымушаны быў падпарадкавацца бацьку. Затое Адам Ягоравіч адпусціў сына на вакацыі ў Беларусь — туды, куды ўвесь час імкнулася душа Максіма.

Спачатку Максім наведаў Вільню, пазнаёміўся з рэдакцыяй «Нашай нівы». Некалькі дзён з раніцы да вечара вандраваў па горадзе, прасякнутым духам беларускага адраджэння, а начаваў у рэдакцыйным пакоі. Калі Максім наведаў прыватны музей беларускіх старажытнасцей, які існаваў пры рэдакцыі выдання, і азнаёміўся з калекцыяй беларускіх рарытэтаў, надзвычай захапіўся. Ён зразумеў, што вера ў Беларусь мае рэальны гістарычны падмурак. Пра гэта сведчылі скарынаўскія старадрукі, слуцкія паясы, старажытная зброя, княскія пячаткі...

Пасля браты Луцкевічы — Іван і Антон — пасялілі Максіма ў свайго дзядзькі — Вацлава Лычкоўскага, гаспадара фальварка ў Ракуцёўшчыне. Нехк паэт выказаў жаданне пажыць у беларускай вёсцы, пачуць жывую беларускую мову, бліжэй пазнаёміцца з народам... Сябры і аднадумцы здзейснілі гэту мару.



Фота Кастуся Дробава.

Фрагмент экспазіцыі ў «Фальварку Ракуцёўшчына» — філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Два шчаслівыя месяцы праляцелі хутка. Цудадзейнае паветра Бацькаўшчыны дапамагло Максіму: яму падалося, што хвароба адступіла:

*У родным краі ёсць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу пазбыцца*
*Сваёй нуды.*

Жыццё беларускай вёскі, маляўнічыя пейзажы Айчыны сталі крыніцай натхнення. У Ракуцёўшчыне Максім стварыў два цыклы вершаў — «Места» і «Старая Беларусь», — якія пасля ўвайшлі ў яго адзіны прыжыццёвы зборнік «Вянок», і дзве паэмы — «У вёсцы» і «Веранікa», — дзе ўвасоблены ідэал жаночага хараства.

Каб зберагчы і перадаць наступным пакаленням духоўны скарб памяці пра самага маладога класіка Максіма Багдановіча, ракуцёўская зямля кожны год збірае аматараў яго таленту. Свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета» стала традыцыйным з часоў стварэння тут музея.

Святкаванне пачалося ля двух валуноў — мемарыяльнага знака, які сімвалізуе вяртанне Максіма Багдановіча на Радзіму. Валуны ўяўляюць вобразы каменя-свечкі і каменя-ахвярніцы. На адным з іх — радкі з «Санета» («Паміж пяскоў егіпецкай зямлі…»), а на другім пазначана, што менавіта сюды прыязджаў паэт улетку 1911 года. Адкрыла літаратурна-музычную імпрэзу сваячка Багдановічаў па бацькоўскай лініі Вольга Дашкоўская.

Пасля традыцыйнага фатаграфавання і наведвання Максімавай крыніцы госці і ўдзельнікі свята сабраліся ля фальварка «Ракуцёўшчына», дзе загадчыца філіяла Настасся Мікалаеўна Сярболіна сустракала ўсіх вершамі, хлебам-соллю і прывітальным словам. Пасля наведвання музейнага комплексу, які ўключае дом гаспадара, дом арандатара і гаспадарчыя пабудовы, госці сабраліся ля галоўнай сцэны, што гэтым разам месцілася ў межах музейнага комплексу. Святкаванне пачалося з прывітальнага слова праўнучкі даўнішняй уладальніцы фальварка Маргарыты Пяровай. Яе бабуля, Эмілія Шабуня, таксама гасцявала з маленькай дачушкай Янінай у дзядзькі Вацлава Лычкоўскага (нагадаю, ён гаспадарыў у фальварку) у час, калі там адпачываў Максім. Калі Яніна вырасла, то са слоў маці запісала ўспаміны аб тым часе. Эмілія Шабуня распавядала, што Максім адразу пасябраваў з маленькай Янінай: насіў яе на руках, гуляў з ёю, распавядаў казкі. Штодзень мясцовая інтэлігенцыя збіралася за гарбатай: за сталом Максім чытаў свае новыя творы, вяліся літаратурныя дыскусіі, гучалі творы і іншых пісьменнікаў на розных мовах. Маргарыта Пярова, хаця жыве не ў Беларусі, — носьбіт беларускага духу, захавальніца традыцый свайго слаўнага роду.

Гасцей віншавала намесніца загадчыка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама Алена Сакалоўская. Свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета» — сумесны праект Літаратурнага музея Максіма Багдановіча і Маладзечанскага райвыканкама. Зямля маладзечанская багатая на таленты, шчодра надзяляе творчай энергіяй і сілай тых, хто тут нараджаецца, у чым пераканаліся прысутныя падчас выступаў артыстаў з народнага клуба паэтаў і кампазітараў Мінскай вобласці «Жывіца», калектыву народнай самадзейнасці «Маркаўчанка».

Чыталі вершы паэты, кожны з якіх адкрыў для сябе Беларусь праз Багдановіча, а Багдановіча — праз Беларусь. Гучалі песні на словы Максіма Багдановіча, а таксама аўтарскія кампазіцыі. Агулам «Ракуцёўскае лета» сабрала больш за тры дзясяткі творцаў. Свята атрымалася яркім і запамінальным.

Творчасць Максіма Багдановіча натхняе сучасных літаратараў, уплывае на іх светапогляд, а таксама дае сілы і натхненне ў складаных жыццёвых сітуацыях. У вершах Людмілы Хейдаравай, Галіны Дубянецкай, Зміцера Арцюха, якія чыталіся са сцэны, гучалі тоесныя вобразы, перайманні і матывы. Выступоўцы агучылі і любімыя творы Багдановіча, а выканаўцы спявалі песні на яго словы.

Вядучая святочнага мерапрыемства Алеся Сівохіна чытала са сцэны вершы Багдановіча і распавядала цікавыя факты з жыцця паэта. Так, у аснову паэмы «У вёсцы» (якую Максім Багдановіч напісаў у Ракуцёўшчыне) быў пакладзены рэальны выпадак, сведкам якога паэт стаўаднойчы падчас прагулкі. Прататыпам галоўнай гераіні, што абудзіла ў душы Максіма самыя светлыя пачуцці, была звычайная вясковая дзяўчынка. Максім бачыў ідэал жаночай прыгажосці не толькі ў знешнім харастве, але і ў духоўным — самаахвярнасці жанчыны ў імя новага жыцця.

Гасцей віншавалі дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, загадчыца Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Марына Запартыка, аўтар мастацкай канцэпцыі экспазіцыі музея Эдуард Агуновіч, мастачка Аксана Аракчэева.

Дзейнасць Максіма Багдановіча — прыклад самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне, на які варта арыентавацца ў жыцці, у штодзённай працы. Ніяк інакш не атрымаецца захаваць нашу багатую культурную спадчыну і перадаць яе нашчадкам...

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

## *Дайджэст*

• Беларускія археолагі знайшлі ў Шумілінскім раёне ўнікальнае паселішча IX — X стагоддзяў. Даследаванні вяліся аднachасова на чатырох аб'ектах. У выніку раскопак было знойдзена каля 600 прадметаў: дырхемы, гандлёвыя гіркі, ювелірныя шалі, гузікі, бранзалеты, пасавыя накладкі, нацельны крыжык скандынаўскага тыпу, усходнія пацеры. Спецыялісты адзначаюць, што па значнасці і перыядзе часу комплекс з'яўляецца адным з найважнейшых помнікаў археалогіі ва ўсёй Усходняй Еўропе. Комплекс атрымаў назву Кардон. На гэтым паселішчы жылі ў IX — X стагоддзях варагі, якія прыбылі з поўначы і тут аселі. Пра іх прысутнасць сведчаць упрыгожанні, якія выраблялі толькі ў Скандынавіі, а таксама 14-гранныя гіркі, якія выраблялі паўночнаеўрапейцы для ўзважвання каштоўных металаў. Усё ўказвае на тое, што жыхары гэтай мясціны займаліся ювелірнай вытворчасцю. Таксама ў комплексе Кардон знойдзеная кераміка заходнеславянскага тыпу, якая хутчэй за ўсё трапіла сюды праз паморскіх славян Наўгародчыны і Пскоўшчыны, і тры рымскія срэбныя манеты III — V стагоддзяў. Археолагі плануюць далейшыя раскопкі ў Кардоне: ён найбольш поўна раскрывае перыяд, які менш за ўсё даследаваны ў Беларусі.

• Да Дня горада на плошчы Свабоды ў Мінску ўсталююць скульптурную кампазіцыю «Жыхары Мінска XIX стагоддзя: кампазітар Станіслаў Манюшка і драматург Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — стваральнікі беларускай нацыянальнай оперы». Пра гэта паведаміў 1 жніўня дырэктар КУП «Мінская спадчына» Павел Шыкунец на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме.

• Па рашэнні Прэзідэнта Абхазіі ў сталіцы рэспублікі з'явіцца вуліца імя Фазіля Іскандэра. Таксама для ўшанавання памяці пісьменніка мяркуецца ўсталяваць помнік у Сухумі, а дом, дзе некалі жыў літаратар, ператорыцца ў музейна-адукацыйны цэнтр. Пашырыцца і афіша фестывалю культуры Іскандэра, які ўпершыню быў праведзены летам мінулага года. Развітанне з Фазілем Іскандэрам прайшло 2 жніўня ў Маскве, пахаваны ён на Новадзявочых могілках. На цырымоніі прысутнічаў Прэзідэнт Абхазіі Рауль Хаджымба, а ў самой рэспубліцы быў аб'яўлены дзень жалобы.

• Прэмію «Украінская кніга года» атрымаў Сяргей Жадан за кнігу «Месапатамія». Узнагароду пісьменніку ўручаў Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка. Гэтай узнагародай прэзідэнт штогод адзначае аўтараў, выдавецтвы і выдавецкія арганізацыі за значны ўклад у папулярызацыю ўкраінскай кнігі і развіццё айчыннай выдавецкай справы. Намінацыя, у якой атрымаў прэмію Сяргей Жадан, — «За выдатныя дасягненні ў галіне мастацкай літаратуры». Выдавецтва «Кніжны клуб "Клуб сямейнага вольнага часу"», якое выдала «Месапатамію», таксама атрымала прэмію.

• Апошні дзень ліпеня для брытанскіх кнігарняў стаўся днём вялікага ажыятажу. Прычынай — выхад восьмай кнігі у межах сагі пра Гары Потэра. Прэзентаванае выданне мае назву «Гары Потэр і праклятае дзіця». Гэта п'еса, галоўным героем якой становіцца сын 36-гадовага Гары Потэра — Альбус Северус Потэр. Выхад кнігі адмыслова прымеркаваны да 31 ліпеня — дня народзінаў аўтара сагі Джоан Роўлінг і яе галоўнага героя. Брытанская прэса паведамляе, што каля дзвярэй найбуйнейшых кніжных крам давялося выставіць нарады паліцыі, якія стрымлівалі натоўп фанатаў. Сама Джоан Роўлінг, якая некалькі гадоў таму сцвярджала, што паставіла на сёмай кнізе сагі кропку, зараз ужо не ўпэўненая ў гэтым. Прэса паведамляе, што пісьменніца не выключае працяг серыі. У верасні п'еса выйдзе на рускай мове, а студыя *Warner Bros* адразу ж паведаміла пра намер экранізаваць заключную частку сагі.



# «Модны код» для айчынных алімпійцаў

## Традыцыйныя матывы замест звыклай прамалінейнасці

**Яшчэ ў дзявятым стагоддзі да нашай эры, калі старажытныя грэчаскія дзяржавы раздзіралі кровапралітныя войны, з'яўленне Алімпійскіх гульняў стала выратаваннем ад міжусобных бед, спрыяла стварэнню агульнай культуры, якую мы ведаем як антычную культуру Грэцыі. Сімвалам міру і ўзаемаразумення паміж народамі спаборніцтвы з'яўляюцца да гэтага часу. Імкненне кожнай краіны паказаць сябе — гэта парад не толькі спартыўных надзей, але і прадстаўленне культуры з яе адметнасцямі — праз знешні выгляд яе прадстаўнікоў. Задача вырашаецца, у тым ліку, удалым стварэннем формы для спартсменаў. Ужо 5 жніўня нашы атлеты нароўні з калегамі з усяго свету паўстануць у Рыа-дэ-Жанэйра. У складзе беларускай зборнай больш за 130 чалавек. Сярод варыянтаў адзення для іх была выбрана парадная калекцыя дызайнера Юліі Латушкінай. У яе свой брэнд і свежае еўрапейскае бачанне. Атрымалася калі не рэвалюцыя, то дакладна прарыў. Наколькі мода, тым больш спартыўная, з'яўляецца мастацтвам? Ці атрымалася зрабіць так, каб нас заўважылі?**

### БЫЦЬ У ТРЭНДЗЕ. НАВОШТА?

Шмат стагоддзяў таму Эфіт, цар Эліды, дзе знаходзіўся легендарны (у будучыні) горад Алімпія, па парадзе дэльфійскага аракула заснаваў «гульні, прыемныя багам». Справа разам вырашыла палітычныя разлады Грэцыі, аб'яднала антычную культуру. Спаборніцтвы, прысвечаныя дасканаласці цела і духу, сталі праходзіць кожныя чатыры гады, а дзяржавы на час спынялі свае рознагалоссі… Адклаўшы даспехі і зброю, людзі адпраўляліся на яркае і запамінальнае свята. Гэтая традыцыя захавалася і па сёння.

Афіцыйныя цырымоніі на Алімпіядзе, асабліва адкрыццё — маляўнічае шоу, відовішча з лепшым сцэнарам і яркімі спецэфектамі, таму і касцюмы для спартсменаў іграюць такую ролю. Важна запаліць не толькі алімпійскі агонь, але і гледачоў. Так павялося ўжо, што эстафета вядзецца не толькі на хуткасць, дальнасць і адвагу, а і на ўменне прадставіць сябе, заявіць сваю нацыянальную ідэнтычнасць.

А тым часам спартыўная вопратка ва ўсім свеце ўжо інтэгруецца ў строі для вячэрніх выхадаў. Няма ніякіх дакладных межаў і правілаў. Галоўнае — дарэчнасць і стыль. Французы і італьянцы гэта заўсёды ўлічваюць. Але ў іх экіпіроўкай алімпійцаў займаюцца дамы моды з сусветным імем. *Giorgio Armani*, напрыклад, або *Lacoste*. Беларусь і так зрабіла прарыў — нашы спартсмены выглядаюць вельмі элегантна, па-добраму стрымана. Але пакуль да ўльтрасучаснасці трэба прайсці пэўны шлях. Больш бы свабоды самавыяўлення, бо мода, у дадзеным выпадку спартыўная, — гэта ўсё роўна творчасць, мастацтва, а кожны касцюм — асобны твор, візітная картка краіны.




Фота з сайта kp.by.

### СІМВОЛІКА ЎЗОРАЎ І КОЛЕРАЎ. УЛІЧАНА ЎСЁ

Унікальнасць і навізна цяперашняй формы (пад назвай «Беларусь спартыўная. Сіла перамог») у тым, што ў ёй нарэшце не скарыстаныя скапіраваныя нацыянальныя сімвалы, як раней (ці гэта сцяг або герб). Юлія Латушкіна не карысталася прамым цытаваннем, а інтэрпрэтавала элементы, узяўшы за аснову беларускія народныя ручнікі. З імі ў нашай культуры шмат чаго звязана. Аздобленыя цудоўнымі вышыванкамі тканіны сімвалізуюць і хатнюю ўтульнасць, і моц сям'і, і дабрабыт. Добрая магія абрадавых ручнікоў захоўваецца і сёння. Успомніце вяселлі, хрэсьбіны, асабліва ў вёсках.

Нічога выпадковага ў нашай форме няма. Скампіляваныя вядомы беларускі раслінны арнамент, валошка і вясёлыя ноткі бразільскіх карнавалаў і маляўнічых пляжаў Рыа. Так традыцыйнасць набыла дынамічнае, насычанае адценне. Валошка не згубілася, таму што сам па сабе сімвал вельмі глыбокі і старажытны. У дадзеным выпадку — і культурнае адрозненне нашай краіны на фоне іншых, падкрэсліванне таго, што мы край з багатай прыродай, і ўпрыгожванне, і талісман. Сінюю кветку з беларускіх палёў прынята лічыць увасабленнем маладосці і здароўя, працавітасці.

Дарэчы, самі вышыванкі цяпер у модзе. Усё часцей у горадзе можна ўбачыць юнакоў і дзяўчат у майках, блузках і кашулях з нацыянальнымі арнаментамі.

Трыадзінства белага, чырвонага і шэрага ў алімпійскай форме азначае чысціню, беззаганнасць і святасць, сонечнае святло і жыццёвую сілу. Ды яшчэ і абарону ад няўдач. Адчуваецца энергетыка продкаў, сакральнага, аўтэнтычнага, спрадвечна нашага. Пагадзіцеся, добрае натхненне для перамогі. Духоўная форма спартсменаў не менш важная, чым фізічная.

Касцюмы беларусаў сапраўды эвалюцыянавалі. Мы наблізіліся да стрыманага абаяння Еўропы, хоць да гарманічнай раскаванасці і лёгкасці Францыі яшчэ далёка. Сёлета адышлі ад зялёнага, які ў вопратцы цяжка спалучыць з чырвоным. Ды і няўжо на сцягу як сімвале нацыянальнай ідэнтыфікацыі фантазія павінна заканчвацца? Наша культура нашмат шырэй, а традыцыі — багацей. Валошка і арнамент адлюстроўваюць менталітэт, характар і даюць пазітыўныя ўстаноўкі. Самапрэзентацыя беларускіх спартсменаў проста павінна прайсці паспяхова!

### ПРАЦЭС ПАЙШОЎ

Юлія Латушкіна прызналася, што Нацыянальны алімпійскі камітэт Беларусі запрасіў яе для распрацоўкі праекта формы яшчэ ў кастрычніку. «Пасля шэрага працэдур і зацвярджэнняў у сакавіку кіраўнік дзяржавы абраў менавіта маю парадную калекцыю з некалькіх прапанаваных камплектаў».

Некалькі разоў у працэсе стварэння нешта дадавалася і змянялася, прымяралі на спартсменах. Так, дызайнер кансультавалася менавіта з тымі, каму гэта ўсё трэба было насіць. Вядома, ёй хацелася больш эксперыментаваць, але трэба было тварыць у пэўных рамках. З аднаго боку — сур'ёзнае мерапрыемства, прадстаўленне краіны і вонкава, і ў дзеянні. З іншага — нормы, патрэбныя ў заканадаўстве, а не падчас свята.

### ЯК ЖА НАКОНТ КАМФОРТУ?

Новая беларуская алімпійская форма атрымалася не толькі сімпатычнай, але і зручнай. Пры стварэнні сваёй калекцыі Юлія Латушкіна старалася ўлічыць актуальныя модныя тэндэнцыі. Так, спадніцы атрымаліся мідзі, самай папулярнай на подыумах у гэтым сезоне даўжыні. Штаны таксама ў трэндзе — з налётам рэтра, завужаныя, але шырокія зверху.

А вось гальштукі і гербы на пінжаках у мужчын падаюцца лішнімі. Занадта афіцыёзна. Зрэшты, без гэтага ў нас пакуль ніяк. Сумясціць у адзенні нешта моднае, спартыўнае і ідэалагічнае, падпарадкаванае пэўным нормам, на самай справе вельмі складана.

Дызайнер упэўненая, што яе калекцыю не напаткае лёс мінулай — у гардэробе адзенне не застанецца. У Беларусі добрая матэрыяльна-тэхнічная база па стварэнні тканін, шмат выдатных спецыялістаў. Радуе таксама абутак ад фірмы Asics — мяккія слiпоны. Юлія Латушкіна наўмысна адмовілася ад высокіх танкетак і груваcткіх красовак. Нават падчас параднай часткі хадзіць спартсменам давядзецца дастаткова. У Бразіліі надвор'е зменлівае, як і ў нас: то ліўні, то пякучае сонца. Так што пашыраны камплект маек прыйдзецца вельмі дарэчы. А калі што — шэры пінжак, які пасуе не толькі да кашулі, лёгка накінуць на плечы.

Нягледзячы на тое, што спартсмены ўсе, як правіла, падцягнутыя, было нялёгка падабраць нешта ўніверсальнае, каб задаволіць і цяжкаатлетаў, і гімнастак. Мужчыны шыракаплечыя — не ўсім зручна ў пінжаках. Касцюмы з жорсткімі, выразна фіксаванымі плячыма не выкарыстоўваліся.

«Усе элементы адзення зроблены з натуральных беларускіх тканін — трыкатажу, віскозы, бавоўны з лёгкай прымешкай эластану, для выгоды», — распавяла дызайнер.

Элементы камплекта (ад спадніц да гальштукаў) лёгка камбінуюцца, а таму могуць спалучацца ў розных варыянтах, і нават пасля правядзення Алімпіяды. Проста ў горад ці на іншае святочнае мерапрыемства. Класіка гарманічна суседнічае са штодзённым стылем.

Наогул экіпіраваць спартсменаў — цэлая эпапея. Акрамя адзення ім належаць і нататнікі з асадкамі, і кубкі для вады, і бірулькі з чахламі для тэлефонаў. Усё зроблена ў адным стылі. Сапраўдны набор моднага вандроўніка.

А яшчэ, па словах Юліі Латушкінай, гэта першы праект «выхаду алімпійскай формы ў людзі». Яе можна набыць па інтэрнэце, у крамах горада — каб мысленна быць разам з камандай, якая прадстаўляе Беларусь. Цэны адносна даступныя. «Было вырашана праверыць цікавасць людзей да такой вопраткі, у тым ліку і на будучыню, гэта свайго роду спартыўны эксперымент», — дадала Юлія Латушкіна.

Марыя ВОЙЦІК

# Жыццё як шчасце і выпрабаванне

## Літаратуразнаўцы Валянціне Локун споўнілася б 70 гадоў



**У першы пасляваенны год, цяжкі, галодны і неўладкаваны, нарадзілася будучая даследчыца беларускай літаратуры, удумлівы крытык Валянціна Локун.**

Пра сваю малую радзіму, вёску Цепянец на Піншчыне, яна пісала ў аўтабіяграфіі: «Назва вёскі (паруску Тепенец) хутчэй за ўсё паходзіць ад слова "топь", або багна, па-беларуску. Праўда, да сярэдзіны ХХ стагоддзя балоты крыху адступілі ад самой вёскі, але вады, асабліва па вясне, было шмат. Яна віравала не толькі ў ваколіцы, але і ў агародах, перакрывала дарогі. Трэба было доўга чакаць, пакуль яна ўступіць у зямлю, або сцячэ ў яшчэ больш нізкае месца. Затое, як прыгожа было ў нас напрыканцы красавіка, ці на пачатку мая, калі цвіла чаромха, а пасля зацвіталі сады!». Магчыма, згадваючы родную вёску, Валянціна Іванаўна ўспамінала радкі з «Новай зямлі» Якуба Коласа:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю…*




Любоў да кнігі з'явілася ў Валянціны Іванаўны яшчэ да школы. Паспрыяў у гэтым старэйшы брат: «Чытаць, па сутнасці, навучылася яшчэ да школы — у старэйшага брата, калі той рабіў дома ўрокі. Школа ў вёсцы была пачатковая і мела ўсяго два невялічкія пакоі, у кожным з іх адначасова шлі заняткі двух класаў. Але нічога, урокі праходзілі цікава, па-за ўвагай настаўніцы не заставаўся ніводны вучань». Але ж у роднай вёсцы — толькі пачатковая школа, а ў сярэднюю даводзілася бегаць аж за сем кіламетраў. Сем — да школы, сем — назад. Нямала для дзяўчынкі. Але гэта не было перашкодай.

І зноў але… Пасля шостага класа здарылася бяда: пачалася працяглая барацьба з цяжкай хваробай ног, якая так і не адступіла. Аднак Валянціна не здалася: з залатым медалём скончыла школу, затым — Брэсцкі педагагічны інстытут і аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Студэнцкія гады ўспамінае з асаблівай цеплынёй: «Студэнцтва… Гэта былі лепшыя гады ў маім жыцці! Нарэшце я была далучана да вялікай літаратуры. Усур'ёз захапілася Тургеневым. Тады мы ўсе былі рамантыкамі… Мы праглі подзвігаў. І агульны пафас тэкстаў І. Тургенева быў сугучны маёй духоўнай настраенасці».




Трохі пазней, ужо ў аспірантуры, Валянціна Іванаўна сур'ёзна занялася даследаваннем беларускай літаратуры, у прыватнасці ваеннай прозы. Пад увагу даследчыцы трапілі такія пісьменнікі, як В. Быкаў, І. Чыгрынаў, І. Шамякін, Б. Сачанка, В. Казько. І ў 1984 годзе Валянціна Локун паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Праблемы стылю беларускай ваеннай прозы». Менавіта з аспіранцкіх гадоў, з паспяховай абароны кандыдацкай дысертацыі ваенная тэма трывала ўвайшла ў даследчыцкае поле Валянціны Іванаўны.

У перыядычным друку пачалі з'яўляцца артыкулы, нататкі, рэцэнзіі Валянціны Іванаўны. Паралельна з гэтым вялася праца над кнігай «Да новых вышынь» (Мінск, 1991). У аўтабіяграфіі пра гэты зборнік чытаем наступнае: «Першы зборнік "Да новых вышынь" (Мн., Мастацкая літаратура, 1991) я чакала амаль сем год. Здавалася, што ён не выйдзе ўжо ніколі. І вось мой першынец з'явіўся… Кніга была прыхільна сустрэта чытачамі. Асабліва мяне парадавала рэцэнзія З. Мельнікавай, апублікаваная ў "ЛіМе". Зоя Пятроўна дала досыць высокую ацэнку зборніку. Большасць са змешчаных у зборніку артыкулаў была прысвечана "ваенным" творам В. Быкава, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, Б. Сачанкі, В. Казько, Ю. Бондарава, В. Астаф'ева, В. Бялова і інш. Праўда, мяне цікавіў найбольш формастваральны, стылёвы бок мастацкіх дыскурсаў празаікаў».

Астатнія работы публікаваліся больш аператыўна: «Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы. 50 — 60 гады» (1995), «Кругі жыцця, кругі літаратуры» (2002), «Васіль Быкаў у кантэксце сусветнай літаратуры» (2005), «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей» (2002; у суаўтарстве), «Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур ХІХ — ХХ ст.ст.» (2006), «Васіль Быкаў: Вядомы і невядомы» (2011). Так, паміж выхадам некаторых работ — працяглы прамежак часу. Але не трэба забываць, што для падрыхтоўкі манаграфіі неабходна ўважлівая і неаднойчы перачытаць мастацкія тэксты, а Валянціна Локун разглядала творчасць В. Быкава, І. Шамякіна, І. Навуменкі, Я. Брыля, А. Адамовіча, В. Казько, В. Карамазава, А. Жука, А. Масарэнкі, В. Коўтун… Да ўсяго — трэба азнаёміцца з крытычнай літаратурай іншых даследчыкаў.

Не варта забываць і пра планавыя тэмы: з 1987 па 2007 год Валянціна Локун працавала старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сярод такіх тэм асаблівай увагі заслугоўваюць раздзелы да чатырохтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя». Тут даследчыца пісала пра творчасць Івана Шамякіна, Алеся Асіпенкі, Уладзіміра Дамашэвіча, Валянціны Коўтун.

Акром названых, Валянціна Локун мае звыш 150 навуковых работ, апублікаваных у перыядычным друку: на старонках часопісаў «Полымя», «Нёман», газеты «Літаратура і мастацтва» і розных зборнікаў можна сустрэць яе артыкулы па праблемах развіцця нацыянальнай літаратуры, рэцэнзіі на літаратурныя навінкі, аглядныя артыкулы, эсэ, нарысы і прадмовы.

Разнастайная і цікавая літаратурная творчасць Валянціны Локун не засталася па-за ўвагай грамадскасці. Даследчыца атрымала шэраг узнагарод: у 2004 годзе стала лаўрэатам прэміі прэзідэнтаў Акадэміі навук Украіны, Беларусі і Малдовы — «За выкананне навуковадаследчай работы "Культурна-гістарычны беларуска-ўкраінскія сувязі: літаратурна-моўны аспект"», у 1993 і 2001 гадах — лаўрэатам прэміі часопіса «Полымя» (за артыкулы «У пошуках маральнага ідэалу. Проза Уладзіміра Караткевіча» і «Узніцца да лёсу агульначалавечага (Талстоўскія традыцыі ў развіцці беларускай ваеннай прозы)», у 2006 годзе ўзнагароджаная медалём Святой Еўфрасінні Полацкай, а ў 2012 годзе атрымала прэмію Беларускага саюза жанчын.

Валянціна Іванаўна раптоўна пайшла з жыцця 16 чэрвеня, у росквіце творчых сіл і магчымасцей, жывучы мноствам мар і імкненняў.

**Алеся ШАМЯКІНА**

*Дарэчы*

## Больш чым крытыка

Ваенная проза ў навуковай дзейнасці Валянціны Локун была прыярытэтнай тэмай. У прыватнасці, шмат увагі яна надавала творчасці Васіля Быкава — яму прысвечаныя дзве манаграфіі. Па вялікім рахунку, у кожнага літаратурнага крытыка знойдзецца работа па ваеннай літаратуры: гэтага вымагае сама вага тэмы, вялікая колькасць мастацкіх твораў, з гэтым звязаных. Зацікаўлены ваеннай тэмай быў і Алесь Адамовіч (якому ў гэтыя дні споўнілася б 90 гадоў, але маці змяніла дату). І не толькі як пісьменнік.

Як адзначалі калегі, Алесь Адамовіч быў крытыкам з ваяўнічым тэмпераментам, у добрым сэнсе прынцыповым, чуйным да праўды. Такія якасці як нельга лепш прыдаліся ў даследаваннях ваеннай прозы, у развагах пра ролю падобных твораў не толькі ў мастацтве, але і ў грамадскім сэнсе.

Свае погляды на адлюстраванне вайны ў мастацкай літаратуры Алесь Адамовіч выказваў у кнігах «Пра сучасную ваенную прозу» (1981), «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры» (1982), «Нічога больш значнага» (1985). Ён сцвярджаў неабходнасць пераходу да «звышлітаратуры» — аб'ектыўнай, максімальна набліжанай да дакументальнай. Тое, што сёння можна назваць «нон-фікшн». Тэарэтычныя перакананні Алесь Адамовіч паспяхова рэалізаваў на практыцы — дастаткова згадаць кнігу «Я з вогненнай вёскі», напісаную ў суаўтарстве з У. Калеснікам і Я. Брылём. Дарэчы, Я. Брыль пісаў пра А. Адамовіча: «Крытыкаваў ён смела і трапна, а гэта, калі ты ад платанічных заклікаў і дэкларацый пераходзіш да пэўнай канкрэтнасці, бывае ох як нявыгадна ды нялёгка...».

Гэта вызначальная адметнасць літаратурна-крытычных работ А. Адамовіча: цесная сувязь са штодзённым, грамадска значным. Так, у кнізе «Нічога больш значнага: Сучасныя праблемы ваеннай прозы» ён супастаўляе напрацаванае ваеннай прозай з падзеямі ў свеце. Прычынай — пагроза ядзернай катастрофы. А. Адамовіч заўзята пераконваў чытача і пісьменнікаў: літаратура мусіць усвядоміць рэальнасць гэтае пагрозы, зрабіць усё, каб катастрофы пазбегчы.

Падобны настрой — у кнізе «Дадумаць дарэшты». А. Адамовіч зноў выказвае пратэст супраць замкнёнасці літаратуры на сабе, супраць «палавінчатых падыходаў да вострых праблем сучаснасці». Акрамя творчасці В. Быкава, крытык даследуе тэксты В. Распуціна, Ч. Айтматава, Я. Брыля, В. Казько. І гэта яшчэ адна адметнасць крытычнай дзейнасці Алеся Адамовіча: ён не разглядаў беларускую літаратуру як нешта адасобленае, упісваў яе ў сусветны кантэкст, прычым нязмушана, натуральна. Нездарма В. Быкаў назваў яго «фігурай еўрапейскага маштабу».

У такой выбітнай асобы, як Алесь Адамовіч, знайшлося шмат паслядоўнікаў, у тым ліку ў навуцы. Эстафету чарназнаўства, прыкладам, падхапіў Міхась Тычына. Як і даследаванне ваеннай літаратуры (як і В. Локун, і А. Адамовіч, ён шмат увагі надае постаці Быкава — згадаць эсэ «Пад знакам Быкава»). Найноўшая работа М. Тычыны ў гэтым рэчышчы — манаграфія «Народ і вайна», выдадзеная ў 2015 годзе.

Адлюстраванне Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры, мастацкія асаблівасці гэтага асэнсавання — вось на чым засяроджваецца даследчык. У аснове работы — творы класікаў: А. Адамовіча, В. Быкава, Я. Брыля, І. Шамякіна, І. Навуменкі, У. Гніламёдава… Цікава, што ў шэрагу крытычных артыкулаў ёсць і такія, якія разглядаюць успаміны пра вайну менавіта навукоўцаў: Ф. Янкоўскага, У. Калесніка, Л. Гараніна… Як некалі А. Адамовіч не абмяжоўваўся адно літаратурным аналізам твора, так і М. Тычына выходзіць за межы крытычнай ацэнкі мастацкіх вартасцей. Кніга «Народ і вайна» «…выяўляе шырокамаштабнасць мастацкага мыслення даследчыка і прэзентуе ўнікальнае, адметнае ўвасабленне нацыянальнага характару і раскрыццё нацыянальнай ментальнасці», — пісала крытык Марына Весялуха.

«Няма на зямлі народаў, якія хацелі б вайны, няма нацый, па сваёй прыродзе ваяўнічых або міралюбівых, — заключае Міхась Тычына. — Такімі іх робіць гісторыя. Адносіны таго ці іншага народа да вайны і міру — самай балючай праблемы на ўсе часы — залежаць ад таго, наколькі глыбока засвоены маральныя ўрокі гісторыі».

Цікава пры гэтым, што ў эсэ «"Ваенны" драматызм і мірная "драма"» (кніга «Час прозы», 1988 год) М. Тычына ставіць пад пытанне самое паняцце «ваенная літаратура». Ён сцвярджае: няма ваеннай літаратуры, ёсць літаратура пра чалавека. «Хіба "ваенны" пісьменнік В. Быкаў? І хіба "вясковы" пісьменнік І. Мележ? Пункт, дзе сыходзяцца ўсе сапраўдныя пісьменнікі, — чалавек, непаўторная "чалавечая сітуацыя"». Як А. Адамовіч у свой час, М. Тычына выказвае трывогу, што псеўдарамантыка вайны адводзе чалавека ад праўды. «Каб высокае не засланяла нізкае», каб гістарычнае ў мастацкай літаратуры гучала нароўні з бытавым, — вялікі клопат пісьменніка, а з ім і крытыка.

# Любоў з першай літары

**А любоў, вядома ж, да кнігі. Успаміны дзяцінства заўжды найпрыемнейшыя, і ў гэтым нябачным скарбе нямалае месца, як нам верыцца, займае першая кніга. Пэўна, не будзе памылкай сказаць, што для большасці чытачоў такім адкрыццём літаратурнага свету былі народныя казкі. У іх — код чалавечнасці, усеагульныя каштоўнасці. Іншую ролю граюць у дзіцячай бібліятэцы аўтарскія казкі і паэзія. Кожны аўтар — непаўторны, і так дзіця адкрывае безліч светаў. Так разгортваецца яго фантазія — услед аўтарскім жартам, каламбурам, паэтычнаму пераасэнсаванню сучаснасці. Пацікавімся, што новага з'явілася сёлета ў беларускім кнігавыданні для самых маленькіх?..**

## «ПА СКЛАДАХ ЧЫТАЕ КНІГУ»

Кнігу пра птушак Беларусі напісаў аўтар з цікавым у такім кантэксце прозвішчам — Юрка Голуб. «Птушыны радавод» (Выдавецкі дом «Звязда») займае ўсяго дваццаць старонак, але якіх!.. Тонкая кніжыца выконвае адразу некалькі «функцый», прычым надзвычай эфектыўна. Першае — знаёміць прагнага да ведаў чытача з птушыным насельніцтвам краіны, прычым найменні птушак — выключна беларускія, непаўторныя і каларытныя. Такая ж — мова аўтара, які ў «дарослым» літаратурным свеце выступае як паэт-філосаф, сапраўды непаўторны ў сваім стылі. Гэтая манера — быць дакладна-лаканічным, а як вынік — патрабавальным да сябе ў пошуку слова — заўважная і ў «Птушыным радаводзе». Чатырохрадкоўі Юркі Голуба запамінальныя: не ў сэнсе — адразу ж завучваюцца на памяць (што, зрэшты, таксама лёгка ажыццявіць разам з дзіцём), але ўражанне пакідаюць незабыўнае. Захапляюць дэталі ў апісаннях, якія ператвараюць просты вершык пра бусла, ці чаплю, ці дзятла ў маляўнічы птушыны партрэт. І добрае пачуццё гумару (а гумар некаторых дзіцячых аўтараў нярэдка бывае спецыфічны, недарэчны ці грубаваты — на жаль, такое заўважала не раз).

Другая значная акалічнасць — «Птушыны радавод» разгортваецца паводле алфавіта: на кожную літару — назва птушкі ці некалькіх. Так да забаўляльнай функцыі далучаецца навучальная, што не менш важна — у форме гульні. Ці не лагічней было б назваць кнігу «Птушыная азбука»?..

Трэці значны момант — у аздабленні кнігі. Мастак Валянцін Макаранка паказвае чытачу адначасова два светы: у адным птушкі паўстаюць з навуковай дакладнасцю, так што «Птушыны радавод» можна смела лічыць даведнікам для самых маленькіх, а ў іншым героі кнігі выступаюць у казачным святле, з пацешнымі атрыбутамі, якія мастак узяў наўпрост з вершаў Юркі Голуба.

## СЯБРА ПРЫРОДЫ

Такім са старонак кнігі «Нарвежскі кот не падвядзе» паўстае яе аўтар, Міхайла Слабашпіцкі (яшчэ адзін праект Выдавецкага дома «Звязда», пераклад з украінскай — Алеся Карлюкевіча). Пра свет жывёлаў, а дакладней — наш агульны свет, які мы з жывёламі мусім дзяліць у міры і згодзе, — ён распавядае з такой сабе прытоенай усмешкай. Добрай, вядома ж. Ён ласкава пакепвае з зайчаняці, якое ўздумала звацца самым смелым зверам у лесе, з такой жа непаслухмянай рыбачкі (адная форма гэтага слова перадае аўтарскае стаўленне да тэмы), распавядае з дзіцячай непасрэднасцю, вельмі займальна пра ўласны досвед — гасцяванне ў яго на балконе дзікай качкі і сяброўства з катамі. Яго героі — сапраўды героі: у некалькіх радках раскрываецца характар таго ж каценяці ці разлажанай мацікачкі. Трапяткое стаўленне да ўсяго жывога папросту не можа пакінуць абыякавым. І ва ўсім гэтым Міхайла Слабашпіцкі надзвычай падобны да іншага ўлюбёнага ў жывёлак аўтара — натураліста Джэральда Дарэла.

Ёсць яшчэ нагода звярнуць увагу на кнігу «Нарвежскі кот не падвядзе» — мастацкая частка выдання. Яна выкананая ў незвычайнай, а як для беларускага кнігавыдання, то й унікальнай, тэхніцы: мастачка Аліна Пацёмская папярэдне стварыла аплікацыі з тканіны, расфарбавала іх і затым перанесла на старонкі кнігі. Адзіны мінус такога афармлення — на некаторых старонках, запоўненых цёмным фонам, кепска чытаецца тэкст, набраны чорным колерам. Тут малому чытачу без дапамогі дарослых не абысціся.




## «О КАПІТАН! МОЙ КАПІТАН!..»

Згадаць гэтую цытату варта не толькі праз назву кнігі, пра якую ідзе гаворка — «Вялікі капітан», — але і таму, што большая частка зместу — паэзія. Меладычная, часта — пацешная, заўжды — якасная, калі можна так сказаць пра паэзію. Аўтар яе — Душан Джурышыч, чарнагорскі пісьменнік. Яго вершы вельмі дынамічныя, у большасці выпадкаў — за кошт удалых алітэрацый. Гэтаксама часта Душан Джурышыч апісвае абсурдныя сітуацыі, малюе фантастычныя, неверагодныя карціны, так што чытач (і зусім неабавязкова — дзіця) пасмяецца ад душы.

У той жа час ён захоўвае баланс паміж проста пацешным вершам і пэўнай павучальнасцю. У тым, што аўтар вучыць выключна добраму, сумнявацца не выпадае. Але гэта не павучанне з шэрагу «рабі тое, гэта не рабі». Перадусім ён паважае свабоду асобы маленькага чалавека і найперш выступае ад яго імені. Самы яскравы прыклад — той самы «Вялікі капітан», дзе хлопчык вырашае стаць марскім воўкам, каб не слухацца маміных загадаў, каб смела ісці насустрач шторму і зведаць свет.

Што да празаічнай часткі, яна захоўвае той жа аўтарскі гумар, тую ж чуйнасць да дзіцячай душы і той жа светлы, пранікліва настрой. Сапраўды, вельмі б хацелася неўзабаве пабачыць новыя пераклады твораў Душана Джурышыча на беларускую мову. Адметна, што «Вялікі капітан» адкрывае новую кніжную серыю Выдавецкага дома «Звязда» «Сяброўства без межаў».

## ДОБРАЯ СПРАВА

Для самых маленькіх і няўрымслівых у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшлі кнігі серыі «Прыгоды на Сонечнай ферме»: «Паламаная агароджа» і «Закапаны скарб». Аўтар казак — балгарская пісьменніца Галіна Злаціна, перакладчыца — Паліна Грынчанка. Прываблівают яркія, дынамічныя ілюстрацыі, мілыя персанажы і пазітыўны настрой. Галоўныя героі — шчанюк Баніфацый, каценя Цімох, парсючок Балёнік — жывуць на ферме, дзе ёсць свае школа, мэр, начальнік паліцыі і дробныя зладзюжкі — пацукі ды вераб'і. Маленькія сябры любяць гарэзнічаць і штукаваць, а ў складаных сітуацыях трымаюцца пры стойна — як і належыць жыхарам добраўпарадкаванага сонечнага горада.




Чытаючы казкі з дзіцем, можна звярнуць увагу на правілы этыкету, абмеркаваць, як варта паводзіць сябе пры непаразуменнях, калі не так і проста заставацца добразычлівым. Як вынікае з прыгодаў Цімоха ды Баніфацыя, галоўнае — не даваць волі адмоўным эмоцыям, заўсёды заставацца вынаходлівым (бо як інакш дамагчыся дапамогі ад осліка Нехачунскага ў вельмі важнай справе?), а для вырашэння праблем аб'ядноўвацца ў каманду «Добрая справа».

Кожная брашурка мае шаснаццаць старонак (здаецца, іх магло б быць крыху больш), але гэта не кніга на адзін дзень. Найперш таму, што маленькага чытача інтрыгуе працяг гісторый — напрыклад, наступная кніга серыі распавядзе, якім чынам каманда «Добрая справа» адвучыла шкодзіць пацучанят. А каб брацца за новую казку, трэба ўзгадаць змест папярэдніх твораў. Да таго ж кожная кніга — гэта фігурка героя, і калі сабраць іх разам, можна разыграць спектакль і прыдумаць новыя прыгоды для жыхароў сонечнай фермы.

## ЭКСКУРСІЯ ПА ЛЕСЕ

Для тых, хто вучыцца чытаць, выдавецтва «Народная асвета» прапануе «Прыродны азбукоўнік» Уладзіміра Ягоўдзіка. Кожная літара беларускага алфавіта — нагода для знаёмства з жывёлай ці птушкай. Каб уяўленні пра свет беларускага лесу былі больш поўнымі, некалькі старонак прысвечана раслінам ды рыбам.

Ілюстрацыі, змешчаныя побач з кароткімі тэкстамі, дазваляюць уважліва разгледзець птушак, вывы якіх не вельмі знаёмыя сучасным дзецям, параўнаць глушца і цецерука, дразда і шпака, юрка і жаваранка. Мы добра ўяўляем воўка, лася, зубра, а вось норку, удода ці турухтана чытач, магчыма, пабачыць упершыню.

У кнізе, дзе палову старонкі займаюць ілюстрацыі, асаблівая ўвага звяртаецца на тэкст. Уладзімір Ягоўдзік прапануе рыфмаваную прозу, прыказкі, загадкі, скорагаворкі, песенькі-замовы, спрабуе перадаць чалавечай мовай птушыныя гукі. За кошт разнастайнасці тэкстаў кнігу можна перачытваць некалькі разоў нібыта наноў. Вось толькі аўтарскія вершы часам не вельмі дасціпныя:

*Чарапаха — і няўклюда,*
*і санлівая маруда.*
*Хіба паспяшыш,*
*скажы ты мне,*
*з цэлай хаткай на спіне?*

Вывы жывёл таксама маглі б быць больш арыгінальнымі. Але цікавая канцэпцыя ўсё адно робіць кнігу карысным набыткам.

## СВЕТЛЫ СВЕТ

Прадмова да кнігі Таццяны Дамаронак «Казкі сінявокай краіны» (выдавецтва «Беларусь») абяцае харастно і цуды і запрашае ў лес, дзе «жывуць добрыя феі, птушкі і жывёлы могуць размаўляюць». Героямі кнігі таксама робяцца дрэвы, кветкі, рэкі і, вядома, людзі: альбо цікаўныя добрыя дзеткі, альбо жыхары даўнейшых беларускіх вёсак, з якімі здараюцца чароўныя і павучальныя гісторыі.

Зычлівыя ды таварыскія — большасць насельнікаў кнігі: Арэшнік, Яблынька, Крумкач, Лябёдка... Нават у Белавежскай пушчы амаль не здараецца непрыемнасцей: гаспадар пушчы Зубр дапамагае хворай казулі, абураецца на Пугача, які хацеў з'есці Вожыка, захоплена распавядае пра навагодняе прадстаўленне ў рэзідэнцыі Дзеда Мароза. Дабрыня пануе ў кожнай казцы — і падаецца, што сучасныя дзеці далёка не заўсёды маюць адпаведны настрой, каб узяцца за кнігу.

Наблізіць узнёслыя і светлыя казкі да маленькага чытача маглі б сучасныя па стылі ілюстрацыі, але мастачка Эльга Папова ўпрыгожыла кнігу пераважна пейзажнымі замалёўкамі. Ілюстрацыі нібы намаляваны пэндзлем маленькага мастака, захопленага роднымі краявідамі. Каб зрабіць кнігу больш пазнавальнай, можна было змясціць на старонках падпісаныя вывы беларускіх птушак, музычных інструментаў, прадметаў сялянскага побыту...

Асобныя творы (хутчэй апавяданні, чым казкі) вяртаюць у рэальны свет, у канкрэтную прастору і распавядаюць пра беларускія азёры і рэкі, пра манумент Перамогі ў цэнтры Мінска.

Пісьменніца неаднойчы нагадвае, што людзі старэйшага пакалення маюць дбаць пра пераемнасць традыцый, спрыяць захаванню памяці пра значныя гістарычныя падзеі. Дзеці разам з настаўніцай ідуць сустракаць вясну — нясуць лялечак-вяснянак і папяровых жаваранчакаў, дамавік дапамагае адшукаць чыгунок, у якім раней гатавалася ў печы «бабка», дзядуля называе аўчарку Джульбарсам у гонар службовага сабакі, які падчас Вялікай Айчыннай вайны выявіў 74 658 мін. Праўда, мараль-падагульненне ў многіх выпадках можна было б прыбраць, бо высновы чытача неабавязкова павінны быць папярэджаны і прапісаны аўтарам.

Казкі пра людзей вучаць быць добрымі, спагадлівымі, працавітымі, клапатліва абыходзіцца з прыродай. Прыбраў хлопчык Макарка дрэва з дарогі ручая — і атрымаў у падарунак ад таямнічага незнаёмца дуду і цымбалы. Пасадзілі дзве дзяўчынкі вішні каля хат — і неўзабаве вырас у вёсцы вішнёвы сад, а ў кожнай хаце чуюцца вясёлыя галасы дзяцей. Бабуля вучыць унучку ткаць, дзяўчынка спяшаецца на гурток саломапляцення пры сельскім клубе, каб навучыць нечаму цікаваму падчас летніх канікул... Не ўсім пашанцавала на такія цудоўныя вёскі, на такіх выдатных бабуль ці сяброў-аднагодкаў, але і дзеці, і бацькі, чытаючы кнігу, задумаюцца пра тое, што можна зрабіць, каб жыццё стала больш светлым, бо ў сінявокай краіне Таццяны Дамаронак адчуваеш сябе ўтульна і вельмі хочацца жыць між гэтых гарманічных людзей...

**Наста ГРЫШЧУК,**
**Юлія ШАПАКОВА**

# З дзецьмі — па-беларуску

**Наталля Мядзведзь — філосаф па адукацыі, перакладчык па прафесіі, выдатная мама і вялікі аматар кніг. Спадарыня Наталля — вядучая блогу «Маленькі чытач» («Маленький читатель»), адна з арганізатараў праекта «ЗаЧытанне» («ЗаЧтение»), у межах якога адбываюцца прэзентацыі, фестывалі, гучныя чытанні. Сайт *littlereader.ru* і старонка фестывалю ў інтэрнэце не пакінуць абыякавым ніводнага дарослага чытача, які хоча падзяліцца з дзецьмі захапленнем кнігамі. Мы запрасілі Наталлю Мядзведзь у рэдакцыю газеты «ЛіМ», каб паразмаўляць пра цікавасць да беларускамоўнай літаратуры ў сучасным грамадстве і больш даведацца аб праектах, разлічаных на дзяцей.**



*Наталля Мядзведзь падчас «гучных чытанняў».*

**— На старонцы «ЗаЧытанне» прапануецца курс «Расчытаем кожнага». Ці ёсць у вас парады, як адкрыць свет кніг чалавеку, які ўвогуле не чытае?**

— Кожнаму дзіцяці можна дапамагчы навучыцца чытаць. Але ці будзе дзіця чытаць з захапленнем, залежыць ад асяроддзя. Калі ў сям'і ёсць каштоўнасць чытання, яна абавязкова выявіцца. Нават калі дзіця некалькі гадоў не цікавіцца літаратурай, але ў пэўны момант пачуе, як бацькі абмяркоўваюць новую кнігу, то захоча даведацца, пра што яны размаўляюць, і возьме кнігу са стала. Літаратура, мастацкія тэксты, навыкі чытання — гэта свет, да якога можна падвесці, гэта мастацтва, да якога можна далучыць — але ніхто нічога не гарантуе. Праект «ЗаЧытанне» дапамагае зацікавіць дзяцей кнігай, стварае культурную прастору вакол сучаснай дзіцячай літаратуры, паказвае кнігу як падзею, нагоду для сямейных стасункаў і творчасці.

Мэта блогу «Маленькі чытач» — пазнаёміць бацькоў з сучаснымі дзіцячымі кнігамі, якія найверагодна застануцца незаўважанымі ў кнігарні. У вялікіх кнігарнях прадавец наўрад ці правядзе экскурсію па паліцах і дасць каштоўныя рэкамендацыі канкрэтнаму чытачу. Таму людзі шукаюць інфармацыю ў інтэрнэце, і экспертыза запатрабаваная. Вельмі істотна сфарміраваць давер да новых твораў і аўтараў, новага падыходу ў мастацкім афармленні, бо з класічнымі тэкстамі дзеці ў тым ці іншым фармаце абавязкова пазнаёмяцца.

**— Калі вы пачалі весці блог?**

— Напрыканцы 2013 года. Інфармацыя пра кнігі, якія я доўгі час збірала, акумулявалася ў пэўную сістэму, захацелася гэтым падзяліцца. Бо ў якасці «ахвяр» я выкарыстоўвала сяброў і знаёмых. Кожны, хто заходзіў у мой дом, апынаўся перад паліцай з кнігамі і слухаў пра новых аўтараў, пра афармленне кніг. Потым, каб гасцей не мучыць, я пераключылася на інтэрнэт, дзе можна проста выкладаць інфармацыю, — і гэта знайшло водгук!

**— А як далучыліся да праекта «ЗаЧытанне»? Наколькі ён запатрабаваны?**

— Здаецца, я была з ім заўсёды. А пачалося ўсё ў 2014 годзе, калі я прыйшла рабіць слана Элмера для лялечнай выстаўкі «Усмешлівыя Цуды». Так мы пачалі кантактаваць з Вольгай Воўк і Вікторыяй Хоміч. Яны доўга працавалі ў дзіцячых бібліятэках, таму з заплюшчанымі вачыма бачаць, як будзе выглядаць мерапрыемства, чым зацікавіць, якую мае карысць. Мы разам рыхтуем праекты, адбіраем кнігі...

«ЗаЧытанне» — гэта не толькі арганізатары і дзеці. Наш праект пазіцыянуецца як актыўная сямейная работа. Бацькі, якія прыводзяць дзяцей на супольныя чытанні, разумеюць, што гэта даволі сур'ёзная праца. Чытанне з чужым чалавекам у новым памяшканні з групай іншых дзяцей — гэта падзея, гэта выхад за межы паўсядзённых стасункаў з кнігай. Таму я вельмі паважаю бацькоў, якія да нас далучаюцца.

Сёння праект «ЗаЧытанне» мае каля шасцісот падпісчыкаў у фэйсбуку. Нават калі гэту лічбу падзяліць на два, некалькі сотняў дзяцей адназначна ўдзельнічала ў нашых мерапрыемствах.

**— «ЗаЧытанне» не пазіцыянуецца як беларускамоўны праект, але прапануе беларускамоўны курс «Жвавенька па-беларуску». Наколькі ён папулярны?**

— Гэты курс выклікае стабільную цікавасць, не меншую, чым курсы на рускай мове. Прыходзяць дзеці, якія добра валодаюць беларускай мовай, прыходзяць дзеці, якія падымаюць руку і кажуць «Вот вы сейчас прочитали, а я ничего не понял». Такім дзеткам вельмі дапамагаюць ілюстрацыі. Але мова іх не палохае!

Кнігі на беларускай мове ўдзельнічаюць у многіх нашых мерапрыемствах. Напрыклад, мы праводзілі «Зімовы эксперымент» — паэтапнае чытанне кніг і выкананне заданняў, падобных да квэсту. На кожным этапе былі беларускамоўныя кнігі, дзеці чыталі, і ўсё прайшло паспяхова. Падчас гучных чытанняў усе вядучыя (і я таксама) перыядычна чытаюць кнігі на беларускай мове.

Заўважаю, што людзі, якія пераважна размаўляюць па-руску, зараз пачынаюць больш чытаць дзецям на беларускай мове. У межах праекта праводзяцца прэзентацыі беларускамоўных кніг, сустрэчы з бацькамі: напрыклад, у мінулым годзе мы запрашалі Марыну Петрашкевіч — супрацоўніцу дзіцячай бібліятэкі, якая добра арыентуецца ў новых кнігах. Быў вялікі ажыятаж — цікавасць ёсць, і гэта прыкметна.

Але для мяне мова паўсядзённых зносін — руская, таму пакуль не наважваюся пісаць агляды беларускамоўных кніг у блозе і аглядаю пераважна прадукцыю расійскіх выдавецтваў.

**— Ці чытаеце вы са сваімі дзецьмі беларускія кнігі, ці абмяркоўваеце праблему білінгвізму? Дзеці школьнага ўзросту часта пытаюцца: «Навошта нам беларуская мова?». Адказаць не так і проста...**

— У старэйшай дачкі ў дзіцячым садку сёлета была праграма, якая знаёміла дзяцей з беларускай культурай. Дзеці віталіся па-беларуску, засвоілі самыя простыя фразы побытавых зносін. Для іх гэта была цікавая гульня. Дома мы патлумачылі моўную сітуацыю наступным чынам: «Мы жывём у Беларусі, наша родная мова — беларуская. Але так склалася, што мы кантактуем на рускай мове, бо гэта зручна, такая сацыяльная дамоўленасць. Пры гэтым тата і мама могуць чытаць і размаўляць па-беларуску, у нас ёсць кнігі, тэатр і вельмі шмат месцаў, дзе можна пачуць прыгожую беларускую мову...».

Дома мы чытаем беларускія кнігі з двух гадоў, прычым падчас чытання размаўляем толькі па-беларуску. Па просьбе дзяцей перакладаю асобныя словы. У нашым дашкольным узросце аддаём перавагу кніжкам-карцінкам, дзе можна шмат зразумець з ілюстрацый. Цікавы момант: у нас ёсць «Пэтсан і Фіндус…» Свэна Нурдквіста на рускай і на беларускай мовах. Дзеці з аднолькавай перыядычнасцю бяруць з паліцы кнігі на гэтых мовах. Калі я чытаю па-беларуску, яны самі перакладаюць словы: больш-менш памятаюць сюжэт і адгадваюць іх значэнне. Так фарміруецца слоўнікавы запас.

**— Якія рэальныя мэты вы ставіце, калі знаёміце дзяцей з беларускай мовай?**

> *Хацелася б, каб нацыянальная літаратура мела шырокі тэматычны і жанравы спектр. Літаратура для дзяцей — стратэгічны культурны запас, узровень яе развіцця вельмі важны для фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці.*

— Дзіця можа ведаць некалькі моў, але адна мова заўсёды дамінантная. Акрамя мовы, якой карыстаюцца ў сям'і, ёсць мова паўсядзённых зносін у соцыуме, і дзіця ўсё адно счытвае, якая мова для яго галоўная. Калі двухмоўнае дзіця расце ў Беларусі і вучыць французскую і рускую мовы, то руская мова будзе мовай зносін. Калі расце ў Францыі, асноўнай рабочай мовай будзе французская. Калі ў беларускім горадзе камунікацыю лягчэй, прасцей весці на рускай мове, дзіця, верагодна, абярэ рускую мову. Чалавек у плане зносін шукае для сябе самы просты, натуральны шлях. Гэта наша сацыякультурная праблема: каб дзеці размаўлялі па-беларуску, патрэбна беларускамоўнае асяроддзе.

Выдатна, калі моладзь адчуе цікавасць да роднай мовы як мовы зносін, мовы, на якой можна выказваць думкі і наогул сябе. Таму хацелася б бачыць, што беларуская мова вызваляецца ад статусу школьнага прадмета, не вельмі патрэбнага па-за вучобай. Наблізіць гэты час можна, калі стварыць беларускамоўнае культурнае асяроддзе, блізкае дзецям і падлеткам. Літаратура тут мае вялікае значэнне.

**— Якія беларускія кнігі вы часта чытаеце з дзецьмі?**

— Кнігі Юі Вісландэр пра Маму Му, «Снежны чалавек» Эвы Суса, «Першая прыгажуня» Алены Масла, «Сумны суп» Вольгі Гапеевай. Дарэчы, у перакладзе на рускую мову «Сумны суп» ужо прадаецца ў Расіі. Гісторыі з гэтай кнігі — пра парасон, слоўнік, кацяня... Па-першае, рэчы, з якімі дзіця лёгка сябе атаясамлівае, па-другое, рэчы побытавыя, зусім не чароўныя — прадметы свет дашкольніка, у якім ён існуе. Такія казкі добра ўспрымаюцца, дзеці вітаюць, калі рэчы, з якімі яны штодня сутыкаюцца, трапляюць у казачныя, прыгожа напісаныя гісторыі. Прываблівалюць мілая, цёплая, утульная павучальнасць, прыемныя пяшчотныя ілюстрацыі. Спадабаліся нам і «Нататкі таткі» Андрэя Хадановіча — з шыкоўнымі ілюстрацыямі, правакацыйнымі, іранічнымі, яркімі вобразамі.

**— Заўважаецца, што кнігі найбуйнейшых беларускіх выдавецтваў вам не вельмі імпануюць. У чым прычына?**

— Іх выданні пераважна афармлены ў традыцыйным рэчышчы. Трымаю кнігу, і разумею, што такія ж карцінкі маглі быць яшчэ трыццаць гадоў таму — нічога звышновага ў параўнанні з выданнямі «Юнацтва». За трыццаць гадоў кніжная ілюстрацыя зрабіла гіганцкі крок наперад, а па кнігах буйных беларускіх выдавецтваў гэтага не відаць. Добра было б дадаць смеласці ў ілюстраванні, звярнуцца да новай мастацкай мовы, адысці ад смешных малюначкаў. Дзіцячы наіўны стыль у ілюстрацыі можа быць вельмі розным. Можна намаляваць дзіўнае стварэнне, але гэта глыбокі прадуманы вобраз, дзе кожная лінія мае значэнне. А можна намаляваць карыкатуры ў адной колеравай гаме...

Калі ж казаць пра тэксты, то цікавыя беларускамоўныя пісьменнікі ёсць. Яшчэ адна праблема ў тым, што іх тэксты часта жывуць асобна ад ілюстрацый.

У Расіі тое ж самае: кнігавыданне рухаюць малыя выдавецтвы, а не вялізныя канцэрны, дзе наклады па 20 000 асобнікаў. Малыя выдавецтвы з кожнай кнігай працуюць як з асобным мастацкім творам, такі ж падыход у беларускіх выдавецтвах, але тыраж пакуль што вельмі адрозніваецца.

**— Ці ёсць у вас добрыя прыклады літаратуры для падлеткаў?**

— Згадваюцца агульнавядомыя імёны: Людміла Рублеўская, Валерый Гапееў. Але гэтага мала, немагчыма стварыць пласт падлеткавай літаратуры ў чатыры рукі. Я лічу, што на беларускай мове павінны выдавацца і творы для падлеткаў, і казачныя аповесці, якія дашкольнікі могуць чытаць з дапамогай бацькоў, і кніжкі-карцінкі для самых маленькіх. Хацелася б, каб нацыянальная літаратура мела шырокі тэматычны і жанравы спектр. Літаратура для дзяцей — стратэгічны культурны запас, узровень яе развіцця вельмі важны для фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці. Але ці ёсць устаноўка на тое, каб у беларусаў нацыянальная ідэнтычнасць была звязаная з беларускай мовай?..

**— Сёння выдаецца шмат кніжак для дзяцей, але яны то сухаватыя, то надта павучальныя... У чым, на вашу думку, сакрэт добрай дзіцячай кнігі?**

— Першае, на што звяртаюць увагу дзеці, — гэта інтанацыя аўтара. Маленькія чытачы чуйна рэагуюць на фальш і збыткоўнасць. Яны хочуць бачыць падобных да сябе персанажаў, чытаць пра прыгоды, да якіх яны б з задавальненнем далучыліся. Дзеці чакаюць павагі да свайго эмацыянальнага досведу, таму вітаюць, калі аўтар не вучыць адкрыта, а вядзе расповед так, што з сюжэта можна атрымаць важныя назіранні, знайсці прыклады выхаду з праблемных жыццёвых сітуацый, характэрных для розных узростаў. Апошнім часам з'явілася шмат цікавых праектаў і ініцыятыў, таму мяркую, што сітуацыя будзе развівацца, і добрыя дзіцячыя кнігі будуць з'яўляцца ўсё часцей...

**Вольга ШАРКО**



Мар'ян ДУКСА

***

Мінулае ў крыві людской не стыне,
яно не пераходзіць у дзірван.
І родны край наш — не пясок пустыні,
дзе выпадковы крочыў караван.
Багаты ён садамі і лясамі,
прыродай лапушыстаю сваёй.
І поўніцца былымі галасамі,
падстаў душу — і ажывуць у ёй.
Схапі, адчуй вось гэта шматгалоссе
сваім чуллівым сэрцам немалым —
спяванне птушак, ціхі звон калосся,
якія нарадзіліся ў былым.
Калі ты ўсё ж былым зачараваны,
як продкаў скарб, яго ў душу прымі…
Наш родны край наўсцяж саследаваны
і шчодрымі, і добрымі людзьмі.
Ах, колькі іх забытых, паўзабытых
пацiхеньку сышло за небакрай.
Ах, колькі іх, людзей таленавітых,
за доўгі час пабачыў родны край!
Усіх сваіх ад Бога самародкаў
ці здольныя мы ўсё ж пералічыць?
У гонар іх, усіх вялікіх продкаў
хай жаўранка айчынны спеў гучыць.

## Нябесны пілігрым

**Памяці Язэпа Драздовіча**

Ты фарбы ўсе ў сваёй катомцы нёс,
і, апроч іх, там не было нічога.
Была дарога, як дарога-лёс,
праз дзень і ноч бясконцая дарога.
Яна табе дарыла водар свой,
паклікаўшы гасцінна на світанку.
І вабіла прытульнаю травой,
пяшчотнаю птушынай калыханкай.
Душа ляцела вольная да зор
над мурагом, які наўкруг сушыўся.
Ды прыпыняў цябе сялянскі двор,
дзе дробны клопат буйна лапушыўся.
Спявалі жорны ў восеньскай глушы
пад скрып калёс спрадвечна-манатонны…
Ды марны лёс, калі ў тваёй душы
грувасціцца адзіны хлеб надзённы.
Ах, як гуляе весела рука
па чыстым полі аркуша паперы.
Шчаслівы без казённага пайка,
узмоцнены жывою праўдай веры.
Абраннік Бога, мусіць, ты спярша —
празмернасці ў сваім не бачу слове.
Няхай сабе ў кішэні ні граша,
затое сэрца ў пацерках любові.
Як добра: лёс дарожны не прывеў
на ўсходні бераг, дзе лічыўся братам.
За тое, што свой край ты так любіў,
абавязкова быў бы вінаватым…
І падалі з тваіх нябесных сноў,
як мары-птушкі, дзіўныя лятункі
на ніткі ільняныя дываноў
такія цудатворныя малюнкі.
Ты быў для ўсіх такі жаданы госць,
нёс пекнату, нібы вясна пралескі.
Свет уратуе, пэўна, прыгажосць,
як прамаўляў нам Фёдар Дастаеўскі.
Твае малюнкі ўсе і дываны
знайшлі дарогу — у душу на покуць.
А высілкі твае — павер, яны
нас прыўзнімаюць болей, чым на локаць.

***

Натоўпу расцугляны нораў —
нязваных сцэнарыстаў плён.
Сюжэт шматлікіх рэжысёраў,
душ цёмных д'ябальскі палон.
Ад дыму — воблакі густыя.
Не плошча — форменны хаос.
І выстралы не халастыя.
І смерць навокал усур'ёз.
Навокал небаракаў мноства
брыдзе з разбітай галавой.
Зноў нашы пошукі геройства,
што пахне свежаю крывёй?
За мроі — страшная расплата,
яна заўжды паблізу ёсць.
Ну колькі можна — брат на брата?
Каманда генаў — злосць на злосць?

***

Ніколі не хацеў я, быў не рад,
як піць занадта горкае лякарства,
гісторыя, заходзіць у твой спрат,
у цёмнае і скрушлівае царства.
Лістаць твае старонкі не любіў,
усведамляць твае былыя справы.
Бо попелам пыліцца твой архіў
і літары ўсе свяцяцца крывава.
Грувасціцца папер і кніжак стос.
У іх за рух твой выстаўлена плата…
Калі б яшчэ не стрымліваў Хрыстос, —
якія б тут ляжалі экспанаты!
Які б тут удыхаўся страшны гад,
якая б панавала ўсюды скруха.
Адзін набат бяды, адзін набат
тут ловіць наша сённяшняе вуха.
Гісторыя, твой нораў закружы,
твой досвед непрыемны і няўцешны.
Гісторыя, быць пеклам любіш ты,
таму што людству…
хочацца быць грэшным.

***

Штосьці недарэчна, не спадручна —
тут як-ніяк, а смутак смерці…
Гучаць бадзёра, вельмі гучна
працяглыя апладысменты.
Пункт гледжання крыху пазёрскі
і дзіўны эпілог фінальны.
Ушанаваны брэнд маскоўскі —
развітвацца арыгінальна.
Ах, вычарпаўся дар бясцэнны,
сыграны ролі ўсе актрысай.
Сыход у іншы свет са сцэны —
апошнім закрыццём кулісаў.
Хоць і не быў шлях дужа гладкі,
было заўжды святлу служэнне.
Калі ўсе пляскаюць у ладкі —
не дзён крушэнне, а ўзвышэнне.
І як жывыя аргументы
таго, што ўсіх любіла многа,
хай забярэ апладысменты
яна, сабраўшыся да Бога.

***

З пароды забойцаў рэдкіх,
настырныя, як шакалы,
гуляюць па нашых клетках
свабодныя радыкалы.
Не даючы тлумачэнняў
адносна прычын анікому,
прыносяць яны знішчэнне
нявіннаму целу людскому.
Вось робяць чорную справу —
няўжо ў іх натура такая?
Ды ёсць і на іх управа —
іх гібель таксама чакае.
Чаму ж, хоць занятак нячысты,
сябе пачуваюць трывала
унутраныя тэрарысты —
свабодныя радыкалы?

***

Няма ўжо вёскі. Толькі дрэвы.
Адчужаны, здзічэлы сад.
А дзе яе былыя спевы,
спрадвечны выгляд, Боскі лад?

Трава густая без дарожак.
Вакол лаза і саснякі.
І не відаць бяздомных кошак.
Адны балююць павукі.

Дзе дзеліся і серп, і коса,
гармонік твой сышоў куды?
Куды сплыла ціхутка вёска
на чоўне дажджавой вады?



Кацярына МАССЭ

## я Ёсць

я Ёсць —
гэта значыць,
адсутнасць мяне заслугоўвае Быць.
я Тут не затым,
каб браму ў нябыт спрабаваць адчыніць.
Тут боль і ўцеха, імпэт і страх —
і ўсё ж гэта лепей, бо Там — ніяк.
што культу аб'ект, што аб'ект для куль —
і мінус, і плюс — значна лепш за нуль.

я Ёсць,
неістотна, ў якім напрамленні, —
жахлівей за ўсё —
усведамленне
таго, што калі б мяне Не Было,
пра гэта не ведала б я
ўсё адно.

я Ёсць —
мне няважна, цвісці ці тлець.
жыццё — гэта тое, што можна растраціць і зноў займець.
а вось небыццё — гэта горш за смерць.
хоць Быць — гэта значыць упарта хацець
болей набыткаў і меней страт, —

я Ёсць, і, як ні круці,
гэта ўжо вельмі шмат.

## арбітр

святасць стэрыльна — соладка спіца на правым баку.
раб блудадзейства служыць аддана свайму граху.
без чарнаты не імкнецца бялець белізна.
геній — арбітр у схватках дабра і зла.

догмы ламаюцца — і на зубах іх хруст.
зло мае брыдкі смак, але добры густ.
жарсць аздабляе аскезу, змякчае прыгнёт.
горкасці шарм збагачае лісліві мёд.

козытна сэрцу ад жару за левым рабром.
чорнае пер'е бунтуе пад белым крылом.
прэсная кроў насычаецца даўкім вінам.
творчасць — смяротны мост між дабром і злом.

## лёд

я — лёд:
я імкнуся сагрэць — а змушаю
замерзнуць.
я — лёд:
я хачу пранікаць — а магу
толькі рэзаць.
цякучасць і гнуткасць
зацягнуты ў жорсткі гарсэт —
нічога не варта
кінуць мяне і разбіць ушчэнт.
таму і на сэрцы маім
крышталічныя краты —
ахова ад гвалту.
што можа расплавіць сцюдзёны ланцуг маіх квантаў?

я ведаю: гэта не ёсць маёю прыродай —
я мушу цячы, струменіцца лагодай!
вось толькі навокал занадта халодна,
каб стаць вадою;
навокал занадта халодна,
каб стаць сабою…

я — лёд:
мне патрэбен агонь —
вазьмі жа мяне
ў сваю далонь.

***

я дрыготкім агорнута сном над прадоннем —
птушанятка у зыбцы — у Божай далоні.
крылы коўдрай эфіру накрыў небакрай —
не пускай, не пускай, не пускай…

рунь рубінавых слёз з па-над-хмарных скляпенняў,
ручаі галасоў з нематы падзямелля.
мяне сэрца твайго рытмы б'юць праз край —
утрымай, утрымай, утрымай...

у грудзях маіх спеюць духмяныя спевы —
гукапад блудных слоў з пракаветнага дрэва.
жыццяпад стромкіх душ — у бяздонне пуці —
адпусці, адпусці, адпусці!

***

узважаны дзвюма — далонямі Феміды.
ўкрыжаваны трыма — бакамі кругавіду.
к чацвёртаму — на ўсход — кладуся галавою —
ўстрывожана рунець
бурштынавай раллёю.

узнесены пяццю — канцамі пентаграмы.
узораны шасцю — знясіленымі днямі.
на сёмы дзень спачну — пад спелаю зарою —
узмроены табой —
адною.

## кон sensus

калі ты ідзеш — ты ставіш сябе на кон.
ніякіх гарантый, што ты не ідзеш пад адхон.
задужа цяжкі, каб плыць па рацэ,
ты йдзеш па лініі на сваёй руцэ.
ты йдзеш — магчыма, угору.
цябе трымаюць пад рукі час і прастора.
ты йдзеш — як раб ці кароль.
ты маеш права на рух — не на кантроль.
ты йдзеш без мэты і сэнсу.
сістэма тваіх каардынат —
твой кон і твае пяць sensūs.
ты будзеш ісці. доўга.
і ты не вернешся.
ты будзеш ісці з Богам —
покуль не прыйдзеш з ім да кансэнсусу.

## ні верху, ні долу

космас не мае ні верху, ні долу
нашы шляхі замыкаюцца ў кола
нашы напрамкі не маюць напрамкаў
рамкі ламаюць уласныя рамкі

сцежкі пятляюць па зблытаных сцежках
ферзь і кароль пакараюцца пешкам
лёс не залежыць ад дзеяння лёсу
смерць заплятае раскошныя косы
Бог перад мніхам з усмешкаю кленчыць
вечнасць не верыць, што будзе жыць вечна
цемра не бачыць сябе ў гэткай цемры
мера так прагне пабыць непамернай

корань не хоча раструшчваць квадраты
карты гуляюць у нас, нібы ў карты
час дзёрзка хлусіць, што ён ёсць прасторай
пункты апоры губляюць апору

нам усё роўна, трыумф ці падзенне
мы без святла пазнаём прасвятленне
нам у зняволенні ведама воля
космас не мае ні верху, ні долу

***

Ты пойдзеш за трыдзевяць жыццяў і трыдзевяць смерцяў,
Пакуль здзірванелай хадой не натрапіш на сад.
Лістота пачне шамацець ледзь трывожным прадвесцем
Таго, што няма і не будзе дарогі назад.

Ты ляжаш на цёплы хрыбет спарахнелае лавы,
І будзе зручнейшай яна за любую пасцель.
І больш не злічыць, колькі сноў ты ўжо тут прабавіў,
І больш не адрозніць пачатак, прыпынак і цэль.

Любая дарога вядзе да таго раздарожжа.
Нагамі, што збіты ў свабоду, і сэрцам — у кроў, —
За трыдзевяць ляжаш зямель у нябеснае ложа —
Згубіць незваротна ўсё тое, што ты не знайшоў.



Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# Ліска-чарадзейка

*Казачнае*

— А ты ж шкода рыжая! А ты ж злая чарадзейка! — грозіцца ды кідае дзед рыбінай. А чым яшчэ? Болей жа нічога на возе няма, адно мех з рыбай. Ці не ўвесь пусты…

Дарэмна кідае: усё роўна не трапляе, дзіравыя рукі ў дзеда. Даскочыўшы да густога балотнага хмызняку, ушылася туды спрытнай лісою. Яшчэ чуваць гнеўныя воклічы, але цьху на гэта… Дзед сюды не пасунецца. Хоць, яго праўда, я і хітрая, і ўвішная, і прыгожая. Рыжая ды чарадзейная. Ліса-ліска. Ну і за што не любіць такую? А вось жа не любіць!

Хіба за тое на мяне пакрыўдзіўся, што я зімой разам з ім рыбу лавіла? Дык ведама ж, лісы да рыбы ласыя! І чаго тады злуе? Супынілася, прыслухалася. Пакрычаўшы ды паскардзіўшыся на жыццё, дзед патупаў назад, да свайго воза. Счакаю яшчэ трошкі, вярнуся ды ўсю рыбу параскідаю збяру. Хіба дарма старалася, уцякала?

— Лісы ж да рыбы ласыя! — паўтарыла шэраму хмызнякоўніку. — А ты будзеш за дзедам сачыць! Як ён паедзе рыбу лавіць, адразу мяне кліч! Вось так! Дзед жа кожнае раніцы спяшаўся рыбаліць, праязджаючы паўз гэтае балота, то хмызнякоўнік найлепш і дапільнуе. А пакуль што пабягу хутчэй дахаты, няхай гэты няўдалы рыбак са сваім возам на грэблі багністай куляецца!

Прыбегла. І што тут у нас? Баба смятану ў гаршчок сабрала, масла біць узялася. Блінцоў пульхных напякла — відаць, дзеда чакае не дачакаецца. А дзед, як на тое, не спяшаецца. Але затое я ўжо тут… Усміхнулася прыязна ды пад вакно. Хвастом сваім сонечным туды-сюды павяла і пытаюся:

— Бабка, а бабка, што ж ты робіш?

— От недарэка! Не бачыш? Масла б'ю!

— Бабка, а бабка, а для каго масла б'еш?

— От недарэка! Буду дзеда карміць!

— Бабка, а бабка, а ці ведаеш ты, што дзед сёння рыбу лавіў?

— От недарэка! Ведаю, бо дзед кожны дзень рыбу ловіць.

— Рыбу лавіў, а цябе вадзяніку замест рыбы абяцаў аддаць, бо твае блінцы нясмачныя…

— Што гэта, ліска, ты кажаш? Няўжо праўда нясмачныя?

— От недарэка! Ты пра тое падумай, што табе ў вадзяніка нясоладка прыйдзецца, а ты пра блінцы клапоцішся… Ды блінцоў тваіх я не ела, адкуль мне ведаць?

— А ты частуйся, ліска! — ды падае місу цёпленькіх праз акно. — А што ж, так і абяцаў вадзяніку аддаць?

— Ды няхай я хвастом за пень зачаплюся, калі прыдумаю такое! Лавіў твой дзед рыбу, аж выплывае да яго вадзянік. Хопіць, кажа, табе з майго валадарства цягаць, давай што за рыбу. А няма ж у мяне нічога, гаворыць дзеду, бедным быў, бедным і застаўся. Адно баба ў хаце, дык жа і тая няўдаліца! Ні зварыць, ні памыць! Адно лаецца, дый годзе! Аддам яе, мо стане ціхмянаю, ласкаваю… А блінцы ж твае смачненькія!

— Ты еш, ліска, еш! Што, так і сказаў: ні зварыць, ні памыць? Дык я ж цалюткі дзень адно вару ды мыю! Працую на гэтага лайдака!

— А ты, бабка, лепш сама спытай! — пачуўшы, як воз затарахцеў зусім блізка, вярнула пустую міску — ды хуценька ў высокае кустоўе, што шчыльнай сцяной абступіла хату.

Гляджу ды слухаю, што ж далей дзеецца будзе. А раззлаваны яшчэ ў дарозе дзедка прытупаў у хату, кінуў бабцы пусты мех. Што, ніводнай рыбіны? Мех ты бабцы кідаеш дарэмна, гэта не ў мяне, маленькую, ды з усёй сілы рыбінай. Ну і атрымаеш жа ты зараз гэтым мехам!

Трэба ж: жыццё пражыўшы, не навучыўся… Кінуўшы мех, яшчэ і просіць:

— Дай, бабка, што з'есці. Натаміўся, рыбу цягаючы… Страх!

— А ты ж мой бедны! А ты ж мой гаротны! — «паспачувала» бабка ды плюхнула дзеду на галаву смятаны з гаршэчка.

Адчуваю, што масла так і не саб'ецца. А вельмі ж хацелася свежанькім паласавацца…

— Ах ты, злая чарадзейка! — засердаваў дзед. — Аддамо цябе злыдню-вадзяніку, каб мне шкоды не чыніла!

— Я ведаю даўно, што мяне пазбавіцца хочаш! От я табе! — бабка, пачуўшы пра шкоду, гаршком у дзеда, ды лыжкай, ды чапялой…

Але ж як многа ў хаце рознага посуду! Адных збанкоў аж дзевяць налічыла. І дужая імі кідацца бабка! Бывае, цалюткі дзень крэкча ды жаліцца на хваробы. Бач, усё як рукой зняло, радасна глядзець. Тут і дзед ёй не саступае: кінуўся па нерат, ухапіў спрытна ды ловіць бабку, як рыбку, нератам.

— А ты ж мая прыгожая! А ты ж мая разумная! А ты ж мая каханая! Хадзі ў нерат! — прыгаворвае бабцы, так і гэтак кідаючы сетку.

Бабка дзедавай шчырасці пра каханую, разумную і прыгожую не верыла. І ад душы шкадавала, што некалі, даўно-даўно, на гэтыя ласкавыя словы спакусілася. Лепш бы сапраўды з вадзянікам жыла! І прыгожы, кажуць, і багаты! А ён, дзед, як быў, так і застаўся галотай. Рыбы налавіць — і тое як здарыцца.

— А ведаеш, трэба ты мне такі! Сама пайду да вадзяніка!

Дзед з неспадзяванкі выпусціў з рук нерат, як не паслізнуўшыся на сухім месцы:

— Ды ідзі ты куды хочаш! Ці ты думаеш, што вадзяніку такая няўдаліца патрэбная?

— От ужо і няўдаліца! — аж уся скаланулася з крыўды бабка. Павярнулася ды патупала да возера, з якога толькі прыехаў дзед.

Дзед жа за бабкай заспяшаўся. Не пайшоў, не. Паехаў, зручна ўладкаваўшыся на возе. А я ж, такая чарадзейная ліска, не пайшла, не, а пабегла следам.

— Куды ж ты, старая, пешкі прэшся? — кажа дзед з воза бабцы. — Сядай, падвязу…

— А каб цябе чэрці вадзяныя падвозілі! — гэта бабка дзеду. — Сама дайду!

— Ты ж калі вадзяніка будзеш клікаць, хоць ласкавае слоўка яму скажы! А то такая крыклівая каму патрэбная?

— А каб ты чарцям вадзяным быў патрэбны! Без цябе ведаю!

— Ты ж калі да вадзяніка будзеш прасіцца, скажы, няхай хоць за цябе колькі рыбы дасць! — дзед з воза бабцы. — А то ж усё жыццё пакутую, а без нічога застануся!

— А каб ты чарцей вадзяных прасіў! — гэта бабка дзеду. — Атрымаеш малога ёршыка за ўсе свае пакуты!

— Я чарцей вадзяных ніколі не прасіў! Гэта ж сабе даражэй! А ты да іх сабралася, — дзед трохі ахалануўся і як быццам сумеўся.

А бабка ўжо да возера дабегла. Рукі насустрач вадзе цягне ды так ласкавенька-шчыранька просіць:

— Хвалі глыбокія-глыбокія, віры сінявокія, чары цёмныя ды гнеўныя, вадзянога каралевіча слугі верныя! Не хачу дарма спадзявацца, а хачу з ім спаткацца! Не хачу на ўвесь свет журыцца, а хачу з ім пакут сваіх пазбыцца! Не хачу за шчасце змагацца, а хачу з ім застацца! Вадзянога каралевіча слугі верныя, чары цёмныя ды гнеўныя, віры, як і ён, сінявокія, хвалі глыбокія-глыбокія!

Схапіўся дзедка за галаву, пачуўшы такое, ды на возеры ўжо хвалі гнеўна ўздымаюцца, у бераг моцна плешчуць. Гэта цёмныя чары ўраз адгукнуліся, пачуўшы неасцярожнае бабчына слова. Дык што ж тут можна зрабіць? Плач не плач, а з глыбокіх-глыбокіх хваль выходзіць сам вадзяны каралевіч!

— Гэй! Праўду старыя дзейкаюць! — аж не стрымалася бабка. — Як ранак, малады, як неба, прыгожы…

— Гэй! — не стрымаўся і дзед. — Малады, малады! Яшчэ на памяці майго дзеда такім быў!

А каралевіч між тым блізенька да беражка падышоў, гамонку такую слухае ды смяецца:

— А для каго ж гэта я не малады? Для цябе, бабця, што як печаны яблык?

Ды тая і не падумала крыўдзіцца, а захаплення свайго не хавае:

— Варожыць-чарадзеіць над сіняй вадою! Дзівосы розныя кліча!

— А як жа! — азваўся і дзедка. — Варожыць… Віхуры пасылае, навальніцы ўсчынае, людзей ад возера жахлівымі зданямі адганяе, каб не стараліся многа! Як прымроіцца такі жах у вечаровым тумане, дык пра ўсё забудзеш!

Каралевіч жа ў адказ:

— А ты ж дзедка! А ты ж смелы! Рыбу кожнага дня цягаеш, ды яшчэ мяне абражаеш! Як быццам я не пра возера клопат маю, а так сабе цёмнымі чарамі баўлюся. Ды і моракам хіба ж напалохаеш цябе…

Дзед на тое не змаўчаў:

— Цьху, нечысць, што цябе баяцца! Каб мог мяне ўтапіць, то, пэўна, ужо ўтапіў бы. А так…

— …А так гляджу на вас, добрых, шчаслівых, дый думаю сабе… — недаказаў вадзяны каралевіч.

— Што, забярэш мяне ў падводнае каралеўства, срэбрам абсыплеш, чарамі адорыш ды будзеш мне ў вочы глядзець, — усхапілася бабка.

Каралевіч ды дзед скоса пераглянуліся, нібы каўтнуўшы чаго кіслага, а каралевіч цвёрда прамовіў:

— Не!

— От я ведаю! — не ўтрываў дзед. — Дурніцу гэтую старую прэч пагоніш, каб яна болей да возера і не думала хадзіць! А то чары ды срэбра ёй спатрэбіліся… Лазы ёй, ды многа!

— Не! — па-ранейшаму цвёрда вымавіў каралевіч.

— А што ж тады? — не могуць даўмецца дзед з бабай.

— Здарыцца з вамі самае жахлівае, — паабяцаў каралевіч. — Трэба ж і мне цёмным чарадзеем пабыць, каб трохі баяліся.

— Што? — у адзін голас занепакоіліся тыя, неўпрыкмет пагадзіўшыся адно з адным.

— А не зловіш ты, дзедку, у возеры ніводнай рыбіны! І да іншых азёр не хадзі: тое ж будзе.

— Авой, зачараваў! — загаласіў дзед.

— Авой, жывымі ў вір зацягнуў! — загаласіла баба. — Лепей мяне русалкай зрабі, лягчэй плакаць будзе!

— Магу з вас абаіх русалак счарадзеіць! Хочаце? — ласкава ўсміхнуўся каралевіч.

Дзед з бабай злосна маўчалі.

— А як не хочаце русалкамі рабіцца, — казаў далей каралевіч, — то вунь тую цікаўную ліску, што ў хмызняку хаваецца, за намі падглядае-падслухае, злавіце ды жывую мне прынясіце.

Авой! І трэба ж было так неасцярожна вызірнуць! А каралевіч — моцны чарадзей, адразу мяне заўважыў, хмызнякоўніка вунь як напужаў… «Ліска, ліска! Бяжы, хавайся хутчэй, — шэпча мне шэры. — А то зробішся рыжай русалкай…» Рыжая русалка? Авой! Толькі так падумала, а ўжо з усёй моцы бегла! Дзед з бабкай — за мною.

Не дагналі. Куды ім, старым, за мной паспець. А ці ўцякла? Гаварылася ж даўно, што не сілай, а розумам, то бабка з дзедкам за розум і ўзяліся… І трэба ж было ім, баязліўцам, так каралевіча спалохацца! Я сама з той няспадзяванкі цэлую ночку ў хмызняковых нетрах прасядзела.

З раніцы яшчэ ніякай шкоды не ўчыніла, адно падумала, што трэба дармавой смятанай паласавацца, аж кажа мне хмызнякоўнік, што дзедка на мяне пастку ставіць! І як мне цяпер па сцежках лясных хадзіць? Ды і рыбаліць дзед не паехаў… Чым жа пасля частавацца буду?

Да хаткі бабінай ды дзедавай цішком крадуся, нават курэй не ганяю. Карысці з гэтых крыкух-квактух, ніколі на іх і не кваплілася. Крадуся, азіраюся, а бабка стараецца, варожыць: «Цьху-цьху-цьху! Каб жа ліска хвастком за пень зачапілася, у дзедава сіло папалася, вадзяному каралевічу аказалася. Цьху-цьху-цьху!»

— Бабка, — кажу, — а бабка, хто ж так чаруе? Так нават квактух тваіх не замовіць, не тое што мяне…

— Цябе, чарадзейку рыжую? — звыкла так пазірае на мяне бабка. — Дык я ж цябе і замаўляць не буду, адно ў сіло ўблытаю, а там ужо няхай каралевіч-вадзянік рады якой дае!

Толькі мовіла тое, як з кустоўя, дзе я хавалася, раптам хлоп на мяне сіло, не чарадзейнае, звычайнае, але ж не выблытацца з такога! Тарганулася туды-сюды — аніяк. Трэба было сябраваць і з кустоўнікам, які вунь хуценька хаваецца за хату, мільганула запозненая думка.

А бабка ўзрадавана плешча ў ладкі:

— Папалася, зладзейка лясная, чарадзейка злая! Добра мы прыдумалі: дзед пайшоў з хаты, каб вочы табе адвесці, а я ж цябе злавіла. Аддамо вадзяному каралевічу, дык ён нам даруе, і будзе нам рыбы ўдосталь!

— От, бабка, будзе табе радасць, — кажу на гэта. — Раніцай рыба, удзень рыбка, а ўвечары рыбіна! Адно не буду, рыжая, прыгожая, па лясных сцяжынках хадзіць, табе з дзедам гаварыць: «Жывіце ладна ды згодна».

— А калі ты нам такое казала? — не паверыла бабка.

Неўзабаве і дзед прытупаў. З таго, што ў пастцы сяджу, радуецца, як самаму вялікаму святу:

— А будзе ж нам рыба!

— Будзе, дзедку! Раніцай рыба, удзень рыбка, а увечары рыбіна! Адно не буду, рыжая, чарадзейная, па лясных сцежках хадзіць, цябе з бабай весяліць…

— Гэта ж калі ты нас весяліла? — запыталіся дзед з бабай, падхапілі мяне ды ў пастцы панеслі да возера.

Там жа нас вадзяны каралевіч сустракае, проста на бераг выходзіць. І не дзівіцца таму дзед з бабай, а не нарадуюцца з такога гонару. Ужо ў думках рыбу лічаць.

— А ён па зямлі, як па вадзе, ходзіць, — кажу, хоць ніхто і не прасіў.

— А яна бабу з дзедам сварыць. Шкодзіць, — глядзіць мне ў вочы каралевіч.

— Злая, злая чарадзейка, — зацягнулі сваё дзед з бабай.

— Чарадзейка, — пагадзіўся каралевіч, і як чары азёрныя адгукнуліся, да мяне пацягнуліся, з пасткі вызвалілі.

Аблічча маё чалавечае вярнулі. Эх, з такой ахвотай удавалася рыжай шкоднай лісою… І хвосцік такі прывабны быў, і вушкі, і лапкі…

— Ты і цяпер шкодная… і вабная, — гэта каралевіч. — Будзе з каго цешыцца вялікім азёрам, будзе каго берагчы…

— Ты? — як ачмаліся дзед з бабай.

— Тая самая… Па лясах хадзіла, людзей дзівіла. Не змянілася, не пастарэла, — і вочы, нібы рыбіны, лыпаюць.

Ды раптам бабка як падскочыць:

— Ты ў чарадзейку тую… гэтую быў закаханы, ёлупень малады! Мяне хацеў кінуць!

— А ты мяне падманула, гюрза старая. З пачуццяў, што не да цябе, смяялася, сабе ўвесь век слугаваць прымусіла!

— Слугаваць прымусіла? Ды гэта я для цябе ўсё рабіла! Каб ты на чарцей так рабіў!

— Я не рабіў?! Ды я табе штодня рыбы унь колькі цягаю. Злыдня ты, баба!

— Хлус ты, дзед! — і пабегла дадому, а дзед за ёю.

Нават рыбы як паболей прасіць забыліся.

# Бялынічы. Радзімазнаўчая акрэсленасць

**Міхась Карпечанка — пісьменнік і журналіст. А яшчэ — галоўны рэдактар бялыніцкай раённай газеты «Зара над Друццю». У гэтым выданні многія старонкі аддадзены краязнаўчай тэматыцы. Пра гэта мы і гутарым з Міхасём Карпечанкам.**


*Міхась Карпечанка.*

**— Як часта вам даводзілася выступаць у мясцовым друку з краязнаўчымі артыкуламі?**

— Пішу па 2 — 4 публікацыі за месяц. Іншым разам і часцей. «Зара над Друццю» мае спецыялізацыю: краязнаўчая тэматыка. Таму трэба трымаць марку.

**— Узгадайце вашы першыя краязнаўчыя публікацыі ў раённай газеце. Што да гэтага падштурхнула: асабістая зацікаўленасць тэмай ці зваротная сувязь, запатрабаванні чытачоў альбо рэдакцыйнае заданне?**

— У сярэдзіне 1980-х, калі быў студэнтам філфака БДУ, зацікавіўся трагічным лёсам сям'і Шашалевічаў з Краснапольшчыны (Васіль — драматург, Андрэй Мрый — сатырык, краязнаўца, Таццяна — актрыса). Заахвочвалі да гэтае працы, да пошукаў Анатоль Ярохін, які працаваў у выдавецтве «Полымя», і журналіст краснапольскай раёнкі, цудоўны краязнаўца (цікавіўся лёсамі землякоў у час Вялікай Айчыннай вайны) Сямён Сямёнаў.

**— Як у вашай газеце вылучаецца краязнаўчая праблематыка: рубрыкамі, тэматычнай старонкай ці матэрыялы змяшчаюцца бессістэмна?**

— Ёсць рубрыкі, прыкладам, «Старонкі гісторыі», «Наша мінулае», «Родныя назвы» (тапаніміка); творчыя праекты — «Сямейныя фотахронікі — дакументы мінулай эпохі», «Нацыянальны здабытак: рэгіянальны аспект», «Бялынiччына літаратурная»; тэматычныя старонкі, як правіла, прысвячаюцца выбітным падзеям мясцовай і нацыянальнай гісторыі — напрыклад, у ранейшыя гады: 70-годдзю вызвалення Беларусі, 95-годдзю ўтварэння раёна, 380-годдзю надання Бялынічам магдэбургскага права, 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны.

**— Ці ёсць у газеце акрэслена вылучаныя краязнаўчыя тэмы, такія, што распрацоўваюцца на працягу пэўнага часу?**

— Гэта нашы творчыя праекты. «Бялынiччына» — краязнаўчы энцыклапедычны даведнік (выдадзены асобнай кнігай); «Нацыянальны здабытак: рэгіянальны аспект» (плануецца на кнігу), «Бялынiччына літаратурная» (тое ж самае); «Родныя назвы»; «Сямейныя фотахронікі — дакументы мінулай эпохі» (хутчэй, будзе фотавыстаўка).

**— Ці даводзілася выступаць у краязнаўчай тэматыцы з вострымі, праблемнымі матэрыяламі? Прывядзіце прыклады. Які быў розгалас ад такога роду публікацый?**

— Даўно, гадоў 15 таму, па захаванасці археалагічна-архітэктурнай спадчыны. Артыкул, здаецца, называўся «Абыякавасць — сястра бяспамяцтва». Розгалас? Настаўнікі дзякавалі.

**— Якой жанравай палітрай аперыруеце? Якія жанры выкарыстоўваюцца ў вашым выданні пры звароце да краязнаўства?**

— Ад кароткай інфармацыі да нарыса.

**— Перавагу ў краязнаўчых публікацыях ваша газета надае матэрыялам штатных ці пазаштатных супрацоўнікаў?**

— Усім, хто прапаноўвае. На жаль, са штатных у асноўным пішу толькі сам.

**— Наколькі актыўна карыстаецеся навуковай літаратурай? Ці патрабуюць краязнаўчыя публікацыі новых ведаў?**

— Стараюся сачыць за краязнаўчай літаратурай. Хоць і не заўсёды ўдаецца. Што ж да другога пытання, то, канечне, патрабуюць: са старым багажом у новы век не праб'ешся, вобразна кажучы.

**— У вашай творчай рабоце якое месца ў суадносінах з іншымі выступленнямі ў друку займае краязнаўчая тэма?**

— Як стаў рэдактарам, суадносіны сталі не на карысць краязнаўства.

**— Ці служылі публікацыі раённай газеты па краязнаўстве штуршком да выступленняў на падобныя тэмы журналістам абласнога і рэспубліканскага друку? Ці не з'яўляецца ў гэтым плане «раёнка» своеасаблівым творчым донарам?**

— Адназначна адказаць цяжка, бо, можа, і таму, што прасачыць цяжка. Дый інтэрнэт гэты… Нашы краязнаўцы стараюцца самі дасылаць матэрыялы ў іншыя газеты. Той жа Васіль Цыркуноў з Галоўчына.

**Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Моўныя дзівосы

Помніцца, калі я ўпершыню знаёміўся з выдатнай кнігай Р. Гамзатава «Мой Дагестан», незвычайна ўразіла месца, дзе аўтар у жартаўлівай форме распавядаў: калі Бог нёс мовы ў мяху і надзяляў імі народы, то пашчасціла горцам: у адной цясніне гэтага краю — па семдзесят моў, не падобных адна на адну. Я ніяк не мог уцяміць, як гэта магло адбыцца на самай справе? Што спрыяла ўзнікненню і нараджэнню своеасаблівай мовы ў кожным ауле? Тым часам успомнілася гутарковая мова нашай вёскі Купленкі, якая шчыруе, жыве і рупіцца ў мядзведжым кутку, дзе сыходзяцца межы трох раёнаў. Згадалася столькі мясцовых дыялектных слоў, якія розніліся ад тых, што былі ў афіцыйным ужытку, што дзіву даешся. Мае аднасельцы маглі размаўляць паміж сабой, выдатна разумеючы адзін аднаго, на дыялекце, недаступным для гараджан. Я занатаваў па памяці больш як паўсотню купленскіх слоў, прывёў прыклады, каб было бачна, у якіх выпадках яны ўжываюцца, каб зразумець сэнс. І матэрыял змясцілі на старонках аднаго з нумароў часопіса «Полымя».

Мяне цікавілі асобныя словы, іх гучанне, гісторыя паходжання і многае іншае. Напрыклад, не без здзіўлення даведаўся з адной публікацыі, што наш зямляк, паэт Іван Ласкоў, які, навучаючыся ў Маскоўскім літаратурным інстытуце імя М. Горкага, ажаніўся на студэнтцы, выхадцы з Якуціі, і паехаў жыць з ёй у далёкі суровы край. Прыслухоўваючыся там да мясцовай гаворкі і вывучаючы якуцкую мову, ён на слых уловіў, што некаторыя словы падобны па гучанні да беларускіх. І пачаў даследаваць, як яны маглі пранікнуць у якуцкую мову, прыжыцца ў ёй, загучаць крыху па-новаму.

Цікава разважае Ласкоў пра літаратурнае імя дзіцячага рускага пісьменніка А. Гайдара. Сапраўднае яго прозвішча Голікаў. Ён удзельнічаў у грамадзянскай вайне з белымі ва Удмурціі і ў юнацкім узросце камандаваў дывізіяй. А калі стаў пісьменнікам, узяў псеўданім Гайдар. Па-ўдмурцкі гэта коннік, які ўвесь час знаходзіцца ў разведцы, сочыць за ворагам, яго перамяшчэннямі, гайдаецца ў сядле і, як маятнік, туды-сюды гайдаецца на перадавой. Ласкоў палічыў, што азіяцкае слова Гайдар мае адзін корань з беларускімі «гайда» і «гайдацца» і ўтворана іменна з яго. Зрэшты, па семантычным гучанні і сэнсавым значэнні словы сапраўды перакліканоца.

Тым часам жыццё рабіла нечаканыя сюрпрызы. Адным з іх стаў выраз, які я пачуў па тэлевізары і радыё, што ў ходу і сёння ў Маскве: «мало тебе не покажется». Дык гэта ж менавіта тая пагроза, якую мы, малыя хлапчукі, з самага дзяцінства чулі ад старэйшых у нашай вёсцы, калі, здаралася, нашкодзілі ці не ў меру насвавольнічалі. Праўда, гучала яна трошкі інакш: «Мала табе не будзе!» Але, як бачым, сэнс адзін. Дык як і якім чынам наш купленскі спаконна-пасконны выраз мог трапіць у Маскву і з чые, як кажуць, падачы загучаў у прастольнай, набыўшы такі шырокі ўжытак і розгалас? Няўжо нехта з нашых мясцін завёз яго ў сталіцу, і ён, як здаровае зерне, упаўшы на ўрадлівую глебу і дзякуючы трапнасці і лаканічнасці, даў шчодрыя ўзыходы? А можа, адбылося неяк інакш? Можа, гэта словазлучэнне таксама мелася, існавала ў Маскве даўным-даўно, але стала актуальным і загучала на тэлебачанні, радыё і ў мастацкіх кінастужках у апошні час?

Нельга не згадаць і каларытнае слова «валіза». Я быў перакананы, што яно таксама купленскага дыялектнага паходжання і гадоўлі. У нашай вёсцы яно характарызуе чалавека няўклюднага, лянотнага, гультая і абібока. Для мяне яно і гучала як слова немілагучнае і не надта абчасанае. І якое было здзіўленне, калі аднойчы вычытаў, што валізай называецца спецыяльны мяшок ці сумка, у якой перавозяць дыпламатычную пошту. Выдатнае адкрыццё! Паўстала пытанне, якім чынам гэта рэдкае слова, якое ўжываецца ў вузкім коле, дзе маюць дачыненне да дыпламатыі, апынулася і прыжылося ў вёсцы, набыўшы зневажальную афарбоўку, жыхары якой не былі далей раёна? Даводзіцца толькі разводзіць рукамі. Ды канстатаваць біблейскі факт, што слова — Бог і толькі яно ведае, якой дарогай ісці да людзей.



*Малюнак Алесі Ісы.*

У дэтэктыўных кінафільмах, дзе гавораць, так бы мовіць, крымінальныя аўтарытэты, можна пачуць слова «кіпішыць» ці нешта блізкае да яго. І зноў трэба заўважыць, што яно бытуе ў размоўнай практыцы нашай вёскі. Праўда, крыху ў іншым значэнні, больш чалавечым, чым у крымінальнікаў. Часцей жанчыны, чым мужчыны, кажуць, што ў іх кіпішыць у грудзях, калі хваляюцца, перажываюць з-за якой-небудзь няўдачы ці біяды.

Такім чынам, ідзе міграцыя слоў, перасяленне іх з адной мовы, суседняй па геаграфічнай адлегласці і нават далёкай, у іншую, дзе яны займаюць адпаведнае месца, гучаць свежа і натуральна, несучы новыя колеры і адценні.

І нам толькі застаецца здзіўляцца і здагадвацца, якім чынам усё гэта адбываецца.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# Бібліякафэ: меню для цікаўных

**Бібліятэкар-афіцыянт? Літаратурнае меню? Рэтра-падарожжа? Дзіўна. А як сёння прывабіць чытача ў бібліятэку?**

Падчас святкавання Дня Незалежнасці Цэнтральная раённая бібліятэка г. Ганцавіч прапанавала чытачам рэтра-выстаўку «Самая старая рэч у маёй сям'і». Экспазіцыю стварылі разам з наведвальнікамі кніжніцы. Прадставілі рэчы, якія захоўваюцца ў сем'ях гадамі. Тут можна ўбачыць сшытак па правапісе вучаніцы 1 класа 1947 года і партманет, з якім франтавік прайшоў усю вайну. А вось Біблія, надрукаваная ў пачатку XX стагоддзя. Яшчэ — бутэлька… дзесяцікапеечных манет савецкага перыяду.

Пасля экскурсу ў мінулае самы час парэфлексіраваць: запрашае бібліякафэ «Адпачынак з кнігай», што ў літаратурна-краязнаўчым пакоі. Бібліятэкар-афіцыянт прапаноўвае азнаёміцца з незвычайным меню, выбраць што-небудзь на свой густ: заказаць пачытаць кнігу літаратара-земляка, паслухаць беларускую паэзію ці песню на матчынай мове. Магчыма, камусьці захочацца праглядзець дакументальны фільм, які апавядае пра жыццё і творчасць пісьменнікаў Ганцаўшчыны, — калі ласка! Шмат завітала ў гэты дзень маладых сям'яў з дзецьмі. Для іх — чытанне дзіцячых твораў, напісаных землякамі. Чытанні, спевы, прагляды фільмаў за кубачкам духмянай гарбаты… Вынік — цудоўна арганізаваны вольны час: задаволены чытач, радыя і бібліятэкары. На здзіўленне наведвальнікаў літаратурнага кафэ, аказалася, і ў свята можна адпачываць разам з кнігай.




А ў невялічкім пакоі, прысвечаным творчасці літаратараў-землякоў, прайшло сапраўднае свята роднага слова, дзе ў нязмушанай абстаноўцы звінелі мелодыі беларускіх песень, слова землякоў, лілася ціхая гамонка на матчынай мове, гнуткай, пявучай, як пісаў Уладзімір Караткевіч, адвечна новай, без якой нельга ўявіць жыцця, як без хлеба, як без паветра. Вось такія, няхай і невялічкія, але асяродкі культуры, дзе паважаюць і беражна захоўваюць роднае слова.

У літаратурна-краязнаўчым пакоі «Ганцаўшчына літаратурная» наведвальнікі пазнаёміцца з творчасцю літаратараў-землякоў. Прадстаўлены творы Аляксандра Сержпутоўскага, зборальніка народнай творчасці; Якуба Коласа, які першую частку трылогіі «На ростанях» — «У палескай глушы» — прысвяціў вёсцы Люсіна, дзе ў маладыя гады настаўнічаў; Васіля Праскурава — знакамітага нарысіста, імя якога прысвоена бібліятэцы; слынных літаратараў Міхася Рудкоўскага, Івана Кірэйчыка, Уладзіміра Марука, Алеся Каско, Алеся Кажадуба, Віктара Гардзея... Захаваныя рукапісы, кніжныя і часопісныя выданні, фотаздымкі, партрэты літаратараў і іх асабістыя рэчы шмат аб чым раскажуць тым, хто цікавіцца літаратурнай спадчынай. І, вядома ж, дзе, як не тут, арганізоўваць літаратурныя і святочныя вечарыны, прэзентацыі кніг?! Для дзяцей школьнага ўзросту ладзяцца экскурсіі. Старэйшае пакаленне збіраецца панастальгіраваць пад родныя песні, матчына слова.

Гэты год багаты на юбілейныя даты пісьменнікаў-землякоў. У красавіку адзначылі юбілей Міхася Рудкоўскага, у жніўні пройдуць Праскураўскія чытанні, прысвечаныя 90-годдзю В. Праскурава. Ушанаванне пісьменніка Віктара Гардзея адбудзецца на яго малой радзіме, у вёсцы Малыя Круговічы. У снежні гэтага года будзем віншаваць з юбілеем Алеся Каско. Частка мерапрыемстваў пройдзе ў літаратурна-краязнаўчым пакоі «Ганцаўшчына літаратурная».

**Таццяна МАЛЯЎКА, загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Ганцавіцкай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы**

# Дзеля шчасця свайго народа

*Без песень тваіх пабяднела зямліца,*
*Па Цётцы і зараз сумуе наш край.*
*Ідзём да магілы тваёй пакланіцца*
*За лёс, за душу, адляцеўшую ў рай.*

Яе псеўданім поўны цеплыні, пяшчоты, блізкага сваяцтва з кожным… Яна, вялікая дачка беларускага народа, і была такой па жыцці: простай, зычлівай, сваёй. Цётка — пачынальніца беларускай літаратуры, палымяная рэвалюцыянерка, змагарка за адраджэнне роднага слова.

Першая беларуская пісьменніца Алаіза Пашкевіч вядомая пад псеўданімам Цётка, Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацку і інш. Пражыла мала, напісала не вельмі шмат, але ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя займае пачэснае месца.

Яе імя стаіць побач з лепшымі імёнамі ў беларускай літаратуры. Вялікую беларускую паэтэсу, асветніцу і настаўніцу, рэдактара і публіцыста, вучоную і артыстку, бібліятэкара і сястру міласэрнасці ўзгадавала шчучынская зямля. Жыццё паэтэсы — узор самаахвярнага і самаадданага служэння радзіме, узор подзвігу ў імя шчасця свайго народа.

Да 140-годдзя з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч у Шчучынскай раённай бібліятэцы зладзілі паэтычную гасцёўню «Жыве Алаізы песня». Госці свята — майстры літаратурнага слова, прадстаўнікі Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, а таксама паэты са Шчучыншчыны.

Падчас мерапрыемства ў гасцёўню завітала і сама Цётка, якая з пачуццём чытала свае таленавітыя вершы.

Адкрыла сустрэчу ўступным словам старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Кебіч. Людміла Антонаўна расказала, як яе жыццё звязанае з творчасцю Цёткі. Узрушылі песні на вершы Алаізы Пашкевіч, якія выканала Людміла Кебіч.

Яркім, незабыўным, душэўным выступленнем парадаваў мастацкі кіраўнік Гродзенскага народнага клуба творчай інтэлігенцыі «Грані» Аляксандр Закрэўскі, прадставіўшы песню на словы аднаго з вершаў зборніка «Скрыпка беларуская».

Зачаравала меладычнасцю музычная кампазіцыя на скрыпцы ад выхаванкі Шчучынскай школы мастацтваў Кацярыны Тарасевіч. Каларыту прыўнеслі ўдзельнікі тэатральнай студыі «Журавінка» з творчым нумарам «Купалінка».

Шмат цёплых слоў можна было пачуць ад майстраў літаратурнага слова, якія захапляюцца творчасцю знакамітай зямлячкі і шануюць яе памяць (Л. А. Кебіч, Г. І. Скаржынская-Савіцкая, У. В. Руль, А. М. Закрэўскі, А. А. Павукова, Н. Л. Цвірко, Г. П. Бляўская, І. С. Шатыронак). Цётка стала песняй у народзе, а яе ліра жыве нанова — пра гэта сведчыць творчасць нашых землякоў. Сучасныя паэты, пісьменнікі, мастакі і музыканты натхняюцца спадчынай Алаізы Пашкевіч.

**Настасся КІМАН, метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Шчучынскай раённай бібліятэкі**



*Падчас паэтычнай гасцёўні «Жыве Алаізы песня».*
*Выступае Ганна Скаржынская-Савіцкая, дзіцячая пісьменніца, член Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ.*

***У фармуляры***

# «Некаторыя чытачы дораць кнігі»

Новыя інфармацыйныя тэхналогіі ўкараніліся ў жыццё канчаткова і беззваротна. Ці гэта не так? Колькі ўжо напісана пра тое, што мы аддаём перавагу электроннай версіі выдання, чым друкаванай газеце... Не кажучы ўжо пра кнігі, кошт якіх зараз не кожнаму па кішэні. Што ж, ёсць бібліятэкі. Але навошта некуды ісці, калі можна проста выбраць амаль што любую кнігу свету ў інтэрнэце і адукоўвацца, седзячы дома? Ці здольныя новыя тэхналогіі цалкам замяніць бібліятэкі? І хто ў наш час самы актыўны чытач? Пра гэта сёння разважаюць вясковыя бібліятэкары.

Сельская бібліятэка вёскі Паставічы (Старадарожскі раён Мінскай вобласці). **Тамара Ліпай** гаворыць:

— Сярэдняя наведвальнасць бібліятэкі ў цяперашні час — 10 чалавек у дзень. Зараз часцей прыходзяць дзеці. Бяруць кнігі пераважна школьнай праграмы: што настаўнікі задалі чытаць на лета. Сярод юных чытачоў карыстаюцца папулярнасцю часопісы. Дзяўчаты, напрыклад, амаль кожны раз просяць часопіс «Стрекоза».

Нягледзячы на летні перыяд і цяжкую працу, працягваюць наведваць нашу бібліятэку дарослыя чытачы. Ёсць і такія, хто прыходзяць у любую пару года.

Некаторыя пажылыя жыхары заказваюць кнігі на дом: узрост не дазваляе пераадольваць адлегласць да бібліятэкі. А я з радасцю дапамагаю: вельмі радуе, што пенсіянеры маюць жаданне чытаць.

Жанчыны ў асноўным бяруць сучасныя жаночыя раманы. Я і сама іх чытаю. Захапляе. Мужчыны бяруць кнігі ваенныя, дэтэктывы. У нас ёсць адзін чытач, Іван Жукавец, які бярэ толькі ваенныя кнігі. Ужо ўсяго Быкава прачытаў і перачытаў. Але, на жаль, беларуская літаратура не карыстаецца ў нас попытам. Чытаюць беларускіх аўтараў пераважна школьнікі.

Сельская бібліятэка-музей вёскі Новыя Дарогі (Старадарожскі раён Мінскай вобласці). **Галіна Бляўская** адзначае:

— Рабочы дзень у мяне неабмежаваны. Часта трэба дастаўляць кнігі пажылым людзям на дом. Калі чалавек прыходзіць у бібліятэку па кнігу, якой няма, бяру яе ў раёне. Кнігі можна заказваць.

Радасна, што некаторыя чытачы кнігі дораць. Старыя кнігі, у сваю чаргу, не спісваю, напрыклад, выданні Тургенева і Талстога 20-х гадоў, хоць ужо прыйшоў іх час. Рука не падымаецца. Яны ў нас на асобнай палічцы. Ёсць і палічка *Bookcrossing*.

Прыходзяць у бібліятэку студэнты. Для іх — палічка, дзе можна знайсці кнігі амаль па любой галіне, у асноўным гэта навуковая літаратура для ВНУ.

Асноўныя чытачы зараз — дзеці. Прыходзяць літаральна кожны дзень. Чытаюць дзіцячыя энцыклапедыі, амаль усе цікавяцца палічкай ваеннай літаратуры, гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны.

Я стварaю папкі, якімі цікавяцца як дзеці, так і дарослыя. Напрыклад, можна прыйсці і пачытаць зборнік рэцэптаў, «Родны кут — часцінка майго сэрца», «Людзі і справы» — пра нашу маленькую Радзіму. Тут збіраю гістарычную і сучасную інфармацыю пра нашы Новыя Дарогі. Я і сама вельмі люблю чытаць, асабліва беларускую літаратуру. Падабаюцца кнігі пра калектывізацыю, 20-я гады. Здаецца, тады ўсё было іншае...

Канечне, бібліятэчная сетка цяпер перажывае змены, гэтаму, мабыць, ёсць шмат прычын. Але пакуль людзі прыходзяць, бібліятэка патрэбна.

**Яўгенія ШЫЦЬКА**

# У стылі Жукоўскага

## Мемарыяльны музей славутага мастака мяркуюць стварыць з дапамогай удзельнікаў пленэру

Сёлета спаўняецца сто сорак год з дня нараджэння аднаго з самых вядомых пейзажыстаў канца XIX — першай паловы XX стагоддзя Станіслава Жукоўскага. Мастак нарадзіўся на Гродзеншчыне, адукацыю атрымаў у Маскве, актыўна займаўся творчай дзейнасцю на прасторах Польшчы. Нягледзячы на тое, што большасць часу мастак правёў у Расіі і Польшчы, Беларусь заставалася блізкай для яго заўсёды: у многіх творах аўтара прасочваюцца сімвалы, рысы родных мясцін. У 2015 годзе ў сядзібе «Жураўлінае», якая знаходзіцца ў вёсцы Вялікае Сяло (Брэсцкая вобласць), адбылося афіцыйнае адкрыццё Міжнароднага пленэру жывапісу Станіслава Жукоўскага. На працягу года мастакі Беларусі, Расіі, Узбекістана стваралі ў «стылі Жукоўскага». Некаторыя работы прадстаўлены сёння на выстаўцы ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры», прысвечанай вынікам міжнароднага пленэру.

Пленэр быў арганізаваны мастацкім аб'яднаннем «Таварыства перасоўных мастацкіх выставак XXI стагоддзе» (Санкт-Пецярбург) на базе сядзібы «Жураўлінае» і Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу з мэтай адраджэння, папулярызацыі двух моцных класічных напрамкаў — лірычнага пейзажа і інтэр'ернага жанру. Таму менавіта асоба Жукоўскага тут адыгрывае важкую ролю. Дарэчы, акрамя мастакоў у пленэры бралі ўдзел паэты, музыканты і вакалісты.



*Ігар Раманчук (Брэст) «Пасля канцэрта».*

Станіслаў Жукоўскі пісаў пейзажы з натуры. Аддаваў перавагу яркім колерам і святлу, не любіў зацямняць, адмаўляўся ад суму і негатыву. Асноўнымі матывамі яго твораў былі старыя сядзібныя паркі, інтэр'еры з расчыненымі вокнамі, дзвярамі. Такая ж задача была пастаўлена і перад удзельнікамі пленэру, якія выбіралі ўпадабаныя месцы і выпраўляліся туды з эцюднікамі. У выніку плённага творчага працэсу за год у калекцыі аўтараў набралася больш як трыста карцін, лепшыя з якіх і дэманструюцца ў галерэі «Універсітэт культуры». Паколькі пленэр пачаўся ў вёсцы Вялікае Сяло, пейзажы карцін выключна беларускія. Мастакам з іншых краін цікава было даведацца пра мясцовыя традыцыі, легенды. Увогуле на адкрыцці выстаўкі многія ўдзельнікі гаварылі, што падчас пленэру адкрылі Беларусь па-іншаму, і справа тут не проста ў прыродзе альбо пэўных візуальных фактарах — атмасферу ўтульнасці, гасціннасці ствараюць менавіта людзі, гатовыя і дапамагчы, і адгукнуцца на любыя праблемы. Цікава, што ўдзельнікі пленэру, абсалютна розныя па ўзроставай катэгорыі, змаглі стаць вялікай сям'ёй. Настолькі іх аб'яднала агульная справа.



*Вольга Шаўцова (Сараў) «Старая сядзіба»*

«У стылі Жукоўскага» аўтары паказалі сучасную беларускую прыроду, спакойнае жыццё маленькіх мясцовых куточкаў. Асаблівую ўвагу аўтары надалі беларускім замкам — Нясвіжскаму, Мірскаму і Ружанскаму. У экспазіцыі яны прадстаўлены з розных ракурсаў, у розным колеравым выяўленні. Знайшліся мастакі, якія на палотнах перадалі і ўнутранае аздабленне замкаў. Краявіды Белавежскай пушчы таксама сталі цэнтрам увагі мастакоў. Велічнасць і гармонія гэтых месцаў абуджае недзе схаваную ў мітусні падзей любоў да роднага. Азёры беларускія і звычайныя сялянскія хаткі Брэсцкай вобласці ў экспазіцыі прадстаўлены асобным блокам.

Асэнсоўваючы прадстаўленыя творы, глядач апынаецца ў сітуацыі абсалютнага ўзаемнага даверу. Важна, што аўтары сапраўды перадаюць атмасферннасць беларускай прыроды, дапамагаюць знайсці, адшукаць у родных мясцінах новыя сімвалы і нават падштурхоўваюць у найбліжэйшыя выхадныя выправіцца ў цікавую экскурсію.

Прадстаўленыя ў экспазіцыі творы плануецца захаваць як будучыя экспанаты для мемарыяльнага музея Станіслава Жукоўскага ў Пружанскім раёне, які ўдзельнікі пленэру імкнуцца стварыць у будучыні.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Падарожжа па Палессі

**«Талент з глыбінкі» — часцей за ўсё так кажуць пра мазырскага мастака Мікалая Дуброву, які зачароўвае і мастацкім почыркам, і шчырай усмешкай. Зусім нядаўна ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь ён прэзентаваў сваю новую выстаўку «Зямля палеская», якая стала своеасаблівым падарожжам па мясцінах яго дзяцінства. Прадстаўлены праект творца называе мастацкай справаздачай за доўгія гады працы.**



*«Святочны дзень», 2007 г.*

Палессе для Мікалая Дубровы не проста месца, дзе ён нарадзіўся, дзе прайшлі яго дзіцячыя гады. Яно — натхненне, музыка, стымул. Менавіта гэтым землям прысвечана большая частка жывапісных кампазіцый аўтара. Падарожжа па Палессі — у розныя часы года. Сціплыя, далікатныя колеры, спакой і ўтульнасць родных мясцін хаваюць цэлыя гісторыі, пражытыя рознымі людзьмі. У мастацкіх творах Мікалай Дуброва паказвае занепакоенасць: пакінутыя, разбураныя сельскія хаты, недагледжанасць і абыякавасць да прыгожых месцаў; будучы лёс краю, які калісьці пакутаваў ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Галоўнае — гэта не проста нагода напісаць твор, а жаданне звярнуць увагу да актуальнай праблемы.

На адкрыцці выстаўкі мастак адзначыў, што за жыццё пабываў у самых розных краінах і бачыў шмат цікавага, незвычайнага, але ж нічога лепей за родны край уявіць не можа. Таму і крыўдна, што яго ўнікальныя мясціны знікаюць, становяцца непатрэбнымі. У выніку, пакуль ёсць магчымасць, спрабуе захаваць ім вечнае жыццё хоць бы на палатне. Праз бацькоўскую хату Мікалай Кузьміч дэталёва паказвае рамантыку і прыцягальнасць Палесся. Калі намаляваны дзверы ў дом, то абавязкова з кветкамі, працягнутымі праз ручку, калі дрэвы, то абавязкова з маленькімі старымі шпакоўнямі, нават лета на двары ён малюе праз вокны, выхады з вясковых пабудоў, каб у вузкай рамцы яно было больш прыцягальным і чаканым.

На выстаўцы пейзажы перамяжоўваюцца з партрэтамі. Героі мастака, простыя са шчырымі вачамі, у кожнага абудзяць свой успамін. Бабулі ў вясковых хустачках сядзяць у задуменні. Пра што думаюць, мараць? Сам не заўважаеш, як пачынаеш размаўляць разам з імі, тэмы з'яўляюцца выпадкова: можа, успамінаюць былыя часы альбо чакаюць, калі прыедуць унукі. Ты таксама адразу задумваешся, ці даўно быў у бабулі, альбо ўспомніш, як у маленстве, пакуль не бачаць бацькі, яна ўціхую частавала цябе цукеркамі. І гэтыя нечаканыя цёплыя думкі дораць пяшчоту. Нягледзячы на тое, што партрэты аб'яднаны адной стылістыкай, нельга сказаць, што яны падобныя. Для дасягнення індывідуальнасці мастак акцэнтуе ўвагу на форме твару і колеры вачэй. Мікалай Дуброва кажа, што чалавек непаўторны ва ўсім, таму і на палатне заўсёды атрымліваецца розным.

Выстаўка «Зямля палеская» заклікае зберагчы зямлю і сябе ў ёй шчырым і адкрытым. Адна з найважнейшых карцін экспазіцыі «Святочны дзень», напісаная аўтарам у 2007 годзе, стала лейтматывам выстаўкі. На ёй намалявана сям'я, якая сядзіць побач са сваёй драўлянай хатай. Два чалавекі не размаўляюць, не рухаюцца, а глядзяць у адну кропку. Напэўна, «у адну кропку» і ёсць пэўны сімвал, знак аб'яднанасці, агульнасці чалавечых душ, іх адданасці адзін аднаму і роднай зямлі. Такая своеасаблівая рамантычная манера адлюстравання ўзрушвае да глыбіні душы. Выходзіш з выставачнай залы, а пачуццё настальгіі не адпускае яшчэ доўга.

Мікалай Дуброва з 2001 года з'яўляецца кіраўніком мазырскай выяўленчай студыі «Фарбы», дзе сваіх маленькіх выхаванцаў вучыць не толькі маляваць, знаходзіць уласны стыль, але і прываблівае да прыроды, імкнецца на простых рэчах паказваць прыцягальнасць мясцовых краявідаў. Кожны раз для навучэнцаў, а пасля і гледачоў ён праводзіць экскурсію ў месцы, дзе спраўджваюцца розныя цуды.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Занатаваць і асэнсаваць

Ужо не сакрэт, што найбольш вядомыя з людзей тэатра Беларусі (рэжысёраў, акцёраў, тэатразнаўцаў) за межамі нашай краіны — драматургі. З пачатку двухтысячных вядзецца гаворка пра феномен беларускай драматургіі — новая хваля тэкстаў (але не п'ес) для тэатра пачала цікавіць не толькі айчынную тэатральную супольнасць, але і замежную. Д. Багаслаўскі, П. Пражко, М. Дасько, М. Рудкоўскі, П. Расолька і іншыя — з гэтымі прозвішчамі часам асацыююць беларускі тэатр людзі, якія ўвогуле з ім не знаёмыя.

Але чаму так атрымліваецца? Пытанне дастаткова складанае, улічваючы, што ўмовы існавання беларускай драматургіі такія ж няпростыя, як і ўвогуле беларускага тэатра. Можна рызыкнуць і сцвярджаць, што менавіта гэта дазваляе драматургам развівацца. І сапраўды, каб стаць пісьменнікам, даўно недастаткова, як Трыгорын, вудзіць рыбу ды прыслухоўвацца да цішыні дзеля вынаходства лепшых эпітэтаў. Досвед набываецца на заводах, у міліцыі, на рынках — дзе толькі не працавалі айчынныя аўтары. Іх п'есы — гэта люстэрка рэчаіснасці, глядзецца ў якое, як заўсёды, балюча. Але зараз вымалёўваецца іншая тэндэнцыя: беларускія драматургі не толькі натуралістычна занатоўваюць кавалкі рэальнасці, але і філасофскі асэнсоўваюць яе і дапамагаюць чытачу прыняць шматграннасць свету — з «чорным» і «белым».

Гэта дапамог выявіць І конкурс-фестываль сучаснай беларускай драматургіі «*WriteBox*», які прайшоў у Мінску. На працягу чатырох дзён у студыі кінакампаніі «*BlackBeastMedia*» былі праведзены чыткі васьмі п'ес, якія трапілі ў шорт-ліст пасля адбору групай тэатразнаўцаў, крытыкаў і рэжысёраў.

Фестываль ліквідаваў пэўную лакуну ў драматургічным ландшафце Мінска. Яго ўзнікненне падалося чымсьці заканамерным: у Беларусі існаваў адчувальны недахоп абмеркавання драматургічных працэсаў і канструктыўнага дыялогу ўнутры тэатральнай супольнасці. А буйныя драматургічныя праекты, арганізаваныя Цэнтрам беларускай драматургіі ў мінулым годзе («Драма *LIVE*», «Зефір», драматургічная лабараторыя), былі накіраваны ці на прэзентацыю п'ес непасрэдна гледачам, ці на працэс напісання тэкстаў. Не хапала фестывалю на конкурснай аснове, які ў першую чаргу быў бы накіраваны на саміх удзельнікаў і іх творчасць, як, напрыклад, расійская «Любімаўка». І вось з дапамогай гранта конкурсу сацыяльных праектаў *Social Weekend* і тэатразнаўцы Вікторыі Беляковай з'явіўся «*WriteBox*», які стаў чарговым крокам у пабудове камунікацыі ўнутры айчыннага драматургічнага свету.

У праграме фестывалю значыліся чыткі п'ес і дадатковыя мерапрыемствы: майстар-клас украінскага драматурга Максіма Курачкіна і лекцыі расійскага тэатразнаўцы Паўла Руднева. Дарэчы, запрошаныя лектары прысутнічалі і на чытаннях п'ес, і на іх абмеркаваннях — такім чынам, удзельнікі маглі заўсёды пачуць іх думкі наконт убачанага. Пазаконкурсная секцыяй стала «Спецыяльнае ўзгадванне» — туды трапілі п'есы, якія зацікавілі адборшчыкаў, але ў праграму чытак не ўвайшлі. Гэта «Пакой Крысціны» Алены Іванюшанка, «Даты» Сяргея Анцалевіча, «Негалоўныя героі» Аляксандра Бугрова, «*Perpetuum mobile*» Яна Доў і «Фінляндыя» Святланы Гайдалёнак.

Прачытаныя п'есы можна ўмоўна падзяліць на дзве групы. Да першай адносяцца тэксты, у якіх дзеянне разгортваецца ў пэўным месцы, у пэўны прамежак часу. Часта ўздымаюцца лакальныя праблемы, упісаныя ў глабальны кантэкст. Да другой групы належаць п'есы, што існуюць адарвана ад часу і прасторы.

«Кропкі на часавай восі» Дзмітрыя Багаслаўскага, «Онікс» і «Сэканд-хэнд. ГДЖ. Канец свету» Максіма Дасько, «Опіум» Віталія Каралёва і «уРайЦіад» Мікіты Ільінчыка адносяцца да першага тыпу. У нейкі момант ва ўсіх пералічаных п'есах драматургі робяць фокус менавіта на беларускую рэальнасць, але потым гісторыя становіцца больш шырокай. Дачыненне да пэўнай прасторы — пазнавальнасць не проста сітуацый, характэрных для нашага менталітэту, але і месцаў, назваў вуліц ці гарадоў аказвае на гледачоў тэрапеўтычны эфект. Так, «Сэканд-хэнд. ГДЖ. Канец свету» можна назваць кнігай беларускага болю, сабранага за пэўны перыяд часу. Дзеянне праходзіць напярэдадні канца свету (ён, канечне, у кожнага свой). Галоўнай пляцоўкай для разгортвання падрыхтоўкі да гэтай «падзеі» становіцца гандлёвы дом «Ждановічы», які сімвалізуе ўвогуле ўсю Беларусь. А вось на гэтым «рынку» было шмат канцоў свету — прыгадаць хаця б далучэнне да Расійскай імперыі, Вялікую Айчынную вайну, развал Савецкага Саюза і не адну дэнамінацыю. Але пасля кожнага такога «канца» заўсёды жыццё працягвалася. Аўтар дакументальна адлюстроўвае эсхаталагічныя настроі, робячы гэта з пэўнай доляй іроніі, так, што становіцца зразумела: для людзей канец свету — хутчэй не праблема, а тэма для размовы. Хлопцы «з раёна», хіпстары, пенсіянеркі, «інтэлігенты» становяцца больш блізкімі адзін аднаму. А калі ўсе будуць трымацца разам, канец свету не наступіць. Таму ў фінале драматург абвяшчае, што выжывуць толькі цыгане.

Яшчэ адна п'еса Максіма Дасько, прадстаўленая на фестывалі, — «Онікс». Менавіта так называецца амерыканскі хіп-хоп-гурт, удзельнікі якога сталі кумірамі для школьнікаў з Кунцаўшчыны. Уся гісторыя пабудавана як дзённік падлетка, што распавядае пра сапраўднае раённае жыццё і юнацкія мары. З аднаго боку, усё як у кіно: гангстары, паходы на чужыя вяселлі без запрашэнняў, каб выпіць таннага алкаголю, сур'ёзныя справы па даручэнні старэйшых бандытаў. З другога — жорсткасць дарослага свету, сапраўдныя трупы і страх, што і дазваляе хутка пасталець і адысці ад крымінальных спраў. Драматург не робіць высновы, ці дапамагло жыццё па схеме «ніга, гангста, ёў» і «два два восем» сацыялізацыі гэтых хлопцаў, але часам праскоквала менавіта гэтая думка. Тым больш на абмеркаванні некалькі чалавек запыталіся ў астатніх: «Няўжо ў вас не было такога дзяцінства?». І ўсё ж такі падлеткаў шкада: ілюзія падабенства мінскіх ускраін да амерыканскага гета яшчэ больш падкрэслівае дзіцячую наіўнасць герояў.

У каркасе тэксту «Онікса» драматург выкарыстоўвае аўдыязапісы і фотаздымкі. Гэта ўжо не новая, але папулярная тэндэнцыя, адным з пачынальнікаў якой на беларускай тэрыторыі стаў менавіта Максім Дасько. «Кропкі на часавай восі» Дзмітрыя Багаслаўскага таксама пабудаваны на аснове дакументальных фотаматэрыялаў: кожная гісторыя пачынаецца менавіта з фотакарткі.

Аўтар умомант перамяшчае гледача па кропках прасторы і часу, мы трапляем паўсюль: ад Кітая да Венесуэлы. Усе гісторыі аб'яднаныя тэмай вымушанага змагання чалавека за права на жыццё, стыхійнасцю падзей, на якія складана ўплываць. Тут і канфіскацыя мітр у 1921 годзе, і пратэсты ў Бухарэсце, і тарнада ў Алабаме, якое разбурыла не толькі дамы, але і лёсы шматлікіх людзей, і сусветныя войны. Беларусь не стала арэнай разгортвання падзей у тэксце, але толькі таму, што яна ўсё роўна прысутнічае у прасторы п'есы — у свядомасці гледачоў. Міжволі даводзіцца параўноўваць прапанаванае драматургам з тым, што адбываецца тут і зараз. Гледачу нічога не застаецца, як прыняць рэальнасць такой, якая яна ёсць. І калі ў адной кропцы хтосьці памірае, у другой абавязкова хтосьці нараджаецца, таму трэба атрымліваць асалоду ад жыцця.

Наладжвае сувязь паміж эпохамі і прасторай і малады драматург Мікіта Ільінчык у п'есе «уРайЦіад», дзе можна знайсці пэўныя адсылкі да «Іліяды» Гамера. Тэкст напоўнены атмасферай сну: кожны з эпізодаў, узаемазвязаных тэмай вайны і перабудовы соцыуму, абуджае новыя асацыяцыі. У цэнтры гісторыі — Барбара, трэнерка па плаванні, і басейн, які плануецца пабудаваць на месцы касцёла. У тэксце прысутнічае лейтматыў вады як цячэння часу і жадання адмыцца ад здзейсненых злачынстваў. Яшчэ адзін моцны вобраз — чорныя валасы, што пастаянна знаходзяць героі. У фінале ў вусны сучаснага экскурсавода аўтар укладае жудасную статыстыку: на кожныя 4,6 секунды прыходзілася адна смерць. Але дзеці не асэнсоўваюць гэта, і толькі смяюцца. А ці павінны? Пытанне сур'ёзнае.

Яшчэ адна п'еса на тэму ментальнай і рэальнай вайны — нашумелы «Опіум» Віталія Каралёва пра хлопца з Рагачова, які не вытрымаў галечы сваёй маці і брата ды паехаў на Украіну акопы капаць. У тэксце раскрываецца парадаксальнасць жыцця: паміраюць часам з-за недарэчнасцяў, вайна і смерць становяцца крыніцамі харчавання, а самым блізкім людзям не заўсёды атрымліваецца дапамагчы.

П'ес, якія не былі прывязаны да канкрэтнага месца дзеяння, але таксама ўздымалі надзённыя праблемы, было менш.

«Секс мне не патрэбен» Лёхі Чыканаса — гісторыя аб праблемах кахання ў сучасным свеце. Непаразуменне адзін аднаго, мяжа паміж жаданнямі чалавека і спадзяваннямі соцыуму часам не дазваляюць быць шчырымі. Драматург пераключае чытача паміж трыма гісторыямі кахання, асноўная з якіх пабудавана на дакументальным матэрыяле: судовая справа ў Амерыцы. Настаўніцу, якая пакахала свайго чарнаскурага вучня-інваліда (яму было сорак два гады), асудзілі за гвалт. Каханне і секс становяцца рэчамі маніпуляцый, якой з задавальненнем займаюцца медыявыданні і тэлебачанне. Але, нягледзячы на гэтыя дрэнныя навіны, драматург выбудоўвае гісторыю такім чынам, што застаецца надзея на выхад з замкнёнага кола і асэнсавання патрэб — і у жыцці, і ў каханні.



Фота Вікторыі Беляковай.

*Падчас чытання п'есы «Кропкі на часавай восі».*

Чымсьці падобныя адна на адну дзве сацыяльныя драмы: «Пенаты» Івана Крапаснога (Цімафей Ільеўскі) і «Бзік» Аляксея Макейчыка. «Пенаты» — сямейная трагедыя, якой не займаць пафасу. Усе дзівацтвы гэтай звар'яцелай сямейкі ўсплываюць, калі нечакана прыпыняе жыццё самагубствам дзед. Дэструктыўныя дыялогі, немагчымасць пачуць адзін аднаго, эгаістычнасць жаданняў і пастаянныя маніпуляцыі магчымасцю сваёй смерці — у такім доме як на вайне. Таму і знаходзіцца сапраўдная стрэльба, якой усіх запалохвае бабуля. Але часам дзеянне падаецца перагружаным, учынкі герояў — нематываванымі, а ўнутры тэксту не хапае паветра. Усё адбываецца на адной хвалі напружанасці, што, канечне, стварае атмасферу безвыходнасці, але не дае магчымасці развіцця дзеяння.

«Бзік» — гэта споведзь наркамана, які ўхіліўся ад лячэння і зусім згубіў прагу жыцця, але ў апошні момант знайшоў сілы паспрабаваць утрымацца дзякуючы маленькай дачцэ. Перад чытачамі праляцяюць карціны дна, дыялогі людзей, якія не асэнсоўваюць сваю наркатычную залежнасць і па-свойму змагаюцца за права быць любімымі і паважанымі. Менавіта надзея, якую дае аўтар, здымае частку пытанняў з п'есы, якая дастаткова спрэчная па тэматыцы і мове: існуе дастаткова тэкстаў новай драмы пра наркаманскія прытоны ў жанры, падобным да мак'юментары. Тым не менш «Бзік» разам з «Секс мне не патрэбен» зусім нядаўна трапілі ў шорт-ліст «Любімаўкі», што кажа пра запатрабаванасць такіх тэм.

Трэба адзначыць рэжысёраў, якія пагадзіліся зрабіць чыткі: гэта Дзяніс Паршын, Антаніна Аляшкевіч, Сяргей Анцалевіч, Аляксандр Марчанка, Тацяна Ларына, Антон Макуха і Наталля Ляванава. Збольшага яны не змянялі тэкст, не інтэрпрэтавалі яго згодна са сваім рэжысёрскім вырашэннем, а вынаходзілі прыёмы, якія дапамагалі гледачу лягчэй успрымаць п'есу і лепей разумець ідэю аўтара.

Падчас драматургічнага майстар-класа Максім Курачкін заўважыў, што патрэбны п'есы, якія «абражаюць» (у добрым сэнсе слова, калі такі ўвогуле існуе) ці «забіваюць» гледача. Тэкстаў, што зроблены з дасканаласцю медыцынскага супрацоўніка, на яго думку, шмат, але хочацца пабачыць п'есу, пасля якой уяўленне пра свет ці драматургію не будзе ранейшым. Пазней драматург адзначыў, што за чатыры дні такія творы яму давялося ўбачыць.

**Настасся ВАСІЛЕВІЧ**

# З беларускім густам

## Фільмы на роднай мове выходзяць да людзей

**Ці даўно вы бачылі філасофскія, па-жыццёваму мудрыя фільмы, што прымушаюць задумацца, ды яшчэ з прафесійнай агучкай па-беларуску ад таленавітых акцёраў? У сталічных кінатэатрах, а не падпольных клубах, на мяккіх крэслах, нароўні з «Дэдпулам» ці «Звяропалісам». Не? А, між іншым, ужо гадоў шэсць існуе праект неабыякавых да нацыянальных каштоўнасцей і добрага кіно людзей — «Кінаконг». Яго кіраўнік, Андрэй Кім, распавёў карэспандэнту «ЛіМа», з якімі цяжкасцямі сутыкаюцца энтузіясты і ў чым моц народнай дапамогі.**



Кадр з фільма «Лютэр».

### ЗМЯНІЦЬ УСЁ

«Колькі гадоў таму, гуляючы па горадзе, я ішоў каля кінатэатра і злавіў сябе на думцы: чаму я люблю фільмы, але рэдка хаджу глядзець іх на вялікім экране? Мабыць, паказваюць нешта не тое, занадта масавае, аблегчанае, не вельмі выразнае? Навошта ж качаць добрыя фільмы з торантаў, калі можна атрымаць ад іх асалоду ў кінатэатры? І яшчэ: я ніколі не бачыў там фільмаў на беларускай мове…» — распавядае Андрэй Кім. З гэтых слоў лёс будучага «Кінаконгу» быў ужо вырашаны.

На той час, маючы досвед працы гукарэжысёрам кіно, ён цвёрда зразумеў, што, калі нешта турбуе, гэтым трэба займацца. Як часта бывае, моцнае жаданне прыцягнула такіх жа, як ён, аднадумцаў, захопленых добрай ідэяй.

«З 2010 года, ад свайго стварэння, праект «Кінаконг» заўважна вырас. Спачатку мы вучыліся, кансультаваліся ў спецыялістаў, адразу стараліся рабіць усё на прафесійным узроўні, у добрай студыі гуказапісу. Як адбіралі фільмы? Браліся за тое, у што былі шчыра закаханымі», — тлумачыць Андрэй Кім.



Кадр з фільма «Хронікі Нарніі».

Галасы, што можна пачуць на экране, належаць нашым тэатральным зоркам — акцёрам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (гэта, у прыватнасці, Павел Харланчук, Ганна Хітрык, Алесь Малчанаў), Нацыянальнага акадэмічнага тэтра імя М. Горкага, а таксама тэлевядучым, дыктарам радыё. Бясспрэчная якасць — лагічны вынік.

На першы ж паказ, у невялічкім памяшканні, набілася столькі народу, што некаторыя літаральна стаялі. За ўвесь час існавання «Кінаконгу» гэта нязменная тэндэнцыя: на кожнай беларускамоўнай прэм'еры аншлаг. Тэрыторый ужо не хапае, нават у кінатэатры «Перамога» на 600 месцаў зала была не проста набітая, а перапоўненая. Так адбылося адноса нядаўна, на паказе нідэрландскай стужкі «Добрыя дзеці не плачуць» Дэніса Ботса. А перад праглядам у адміністрацыі казалі: «Ды амаль ніхто не прыйдзе, навошта вы столькі буклетаў надрукавалі?».

### СІЛА ПАДТРЫМКІ

У праекта «Кінаконг» ёсць сайт *(kinakong.by)* і старонкі ў сацыяльных сетках, дзе выкладаюцца беларускамоўныя трэйлеры і рэцэнзіі, а таксама навіны свету кіно, кароткаметражкі і ролікі. Усё, зразумела ж, на роднай мове. Але галоўны акцэнт — рэгулярныя кінапаказы. Раней толькі на невялікіх пляцоўках, кшталту кафэ ці галерэі «Ў», зараз у кінатэатры «Перамога», хутка, магчыма, і ў «Сільвер Скрын».

Яны шукаюць валанцёраў і аматараў. І знаходзяць. Нават спонсары падключаюцца. Дарэчы, працэс агучкі аднаго фільма даволі дарагі. І зразумела чаму. Этапаў шмат: зрабіць літаратурны пераклад і яго рэдактуру, падагнаць мову пад фармат фільма, агучыць, змантіраваць, пачысціць рэплікі, штосьці зрабіць гучней ці, наадварот, пусціць фільм у постпрадкшн, забяспечыць яго рэкламай, паказаць на экране…

Не так даўно скончыўся краўдфандынгавы праект для агучкі па-беларуску мультсерыяла «Свінка Пэпа» для самых маленькіх. Людзі адгукнуліся, некалькі серый ужо выйшла. Першыя ж без аніякай рэкламы сабралі 15 000 праглядаў, што яшчэ раз сведчыць пра запатрабаванасць гэтай ініцыятывы.

### НЕВЫПАДКОВЫ АДБОР

Як камандай адбіраюцца стужкі? Крытэрыяў некалькі. Іх можна прымяняць нават тады, калі хочаш проста паглядзець нейкі фільм увечары на выхадных. Кіно павінна ўплываць, прычым, пазітыўна, змяняць цябе ў лепшы бок, а не ламаць псіхіку, быць ежай духоўнай, як кажа Андрэй Кім.

«Наша мэта ў тым, каб чалавек зайшоў на прагляд у адным стане, а выйшаў — зусім у іншым, каб яму захацелася рабіць добрыя рэчы, мяняць свет, жыць больш правільна. Гэта крытэр, без якога не агучваецца ніводная стужка. Мы канцэнтруемся на фільмах, якія нясуць святло», — прызнаецца кіраўнік праекта.

Неабавязкова быць адданым хрысціянінам і вытрымліваць Вялікі пост, каб разумець, што прапануе «Кінаконг». Дастаткова ўмець назіраць і прыслухоўвацца, выкідваць з душы абыякавасць. Фільмы Андрэй Кім умоўна падзяляе на тры катэгорыі: тыя, што робяць чалавека лепшым, тыя, што ніяк не ўплываюць, і тыя, што схіляюць душу да кепскага.

Вельмі важная «фішка» праекта, пасля беларускамоўнасці, у тым, што фільмы, якія паказвае «Кінаконг», малавядомыя нам, беларусам. Яны не ідуць звычайна ў кінатэатрах, не маюць добрага дубляжу, нават на рускай мове. Прыходзяць проста таму (нават тыя, хто не размаўляе на беларускай мове ў жыцці), што хочуць паглядзець фільм, які яшчэ не бачылі. Ёсць выключэнні, такія як «Форэст Гамп», але гэта ўжо свайго роду класіка, якую хочацца пераглядаць не раз.

«На кожным паказе мы стараемся адкрыць штосьці новае. Пад увагу трапляюць фільмы і амерыканскія, і еўрапейскія», — дадае Андрэй Кім. Некаторыя з іх падымаюць набалелыя сацыяльныя праблемы кшталту ўмоў для існавання інвалідаў у горадзе і стаўлення да іх грамадства ці дзіцячай смяротнасці ад лейкеміі. Перад паказам стужкі на гэтую тэму (фільм «Добрыя дзеці не плачуць») у залу запрасілі загадчыцу кансультацыйна-паліклінічнага аддзялення Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі, урача-гематолага Вольгу Карась. Яна выступіла з лекцыяй-распаведам. Эфект вельмі моцны. Людзі казалі, што пасля прагляду фільма рана ўключылі святло, бо хацелася яшчэ паплакаць…» — распавядае Андрэй Кім.

Сярод найбольш значных праектаў пра моцных духам (другая лейтматыўная тэма) можна ўзгадаць фільм «Бэн Гур» Уільяма Уайлера пра гераізм і самаахвярнасць, што атрымаў рэкордную колькасць Оскараў за ўсю гісторыю кіно. Дзеянне легендарнай стужкі, што цяпер гучыць і па-беларуску, адбываецца ў Рымскай імперыі ў першым стагоддзі нашай эры.

Часта выбіраюць «кінаконгаўцы» сямейныя меладрамы, але таксама з сэнсам. Напрыклад, «Гэта цудоўнае жыццё» Франка Капры — пра чалавека, што вырашыў скончыць жыццё самагубствам, але сустрэў анёла, які заставіў яго паверыць у сябе.

А 14 лютага гледачы маглі наведаць паказ «Вогнетрывалага» і зноў жа пачуць выступоўцу і паўдзельнічаць у абмеркаванні. «Кінаконг» актыўна выступае за інтэрактыў, размовы. На праглядзе «Вогнетрывалага» быў сапраўдны выратавальнік спадар Юры, які ўжо 21 год працуе пажарнікам. Ён распавядаў рэальныя гісторыі пра сваю працу, пра барацьбу з агнём і ратаванне жыццяў.

Што яшчэ ў скарбонцы? «12 раз'юшаных мужчын» Сідні Люмэта, адна з лепшых карцін стагоддзя, «Гран Тарына» Кліна Іствуда з ім жа ў галоўнай ролі, «Цудоўна ласка» з папулярным зараз, а тады яшчэ проста таленавітым тэатральным акцёрам Бенедыктам Камбэрбэтчам. Апошні фільм вельмі значны, ён расказвае пра Уільяма Уілберфорса — англійскага палітыка і грамадскага дзеяча XVIII стагоддзя, які прысвяціў жыццё адмене рабства ў Вялікабрытаніі — справе, што тады здавалася немагчымай. Але, калі чалавек мае веру, няма нічога немагчымага. Гэта і пра стваральнікаў праекта, дарэчы.

### КАБ ПАЧУЛІ

Цяжкасці, з якімі сутыкаюцца ўдзельнікі «Кінаконгу», хутчэй не прафесійныя, а матэрыяльныя. І на ўзроўні паразумення, неабходнасці адыходу ад кансерватызму і бюракратыі. Спачатку Андрэй Кім з сябрамі аддавалі грошы на праект са сваіх кішэняў, але, каб яго пашырыць, патрэбныя большыя магчымасці. «Не ўсе разумеюць, навошта нам увогуле перакладаць кіно на беларускую мову, бо гэта, маўляў, амаль тое ж самае, што і па-руску. Насамрэч беларускамоўнае кіно вельмі запатрабавана. Нашы запоўненыя залы пра гэта сведчаць. Спадзяюся, з часам сітуацыя зменіцца, а з кінатэатрамі будзе прасцей дамаўляцца. Бо нам патрэбна яшчэ і ліцэнзія, а гэта шэраг папер…»

Добра, што часта на дапамогу прыходзяць розныя амбасады, так было, напрыклад, з Карэяй і Нідэрландамі. У найбліжэйшых планах, па словах Андрэя Кіма, — паказаць тры фільмы — перавыданне стужкі «Цудоўна ласка» ў новай якасці, «Мужных» ад незалежнай амерыканскай студыі пра сямейныя турботы і мультфільм «Падынгтан» пра мядзведзя, што прыехаў з роднага, але дрымучага Перу ў Лондан шукаць сям'ю і сяброў. У канцы жніўня штосьці з гэтага ўжо можна будзе ўбачыць. Хутка плануецца пашырыць геаграфію паказаў і на рэгіянальныя гарады Беларусі.

«Гэта нонсэнс, што за 26 год нашай незалежнасці фільмы, што выходзілі на беларускай мове, можна пералічыць па пальцах! Хочацца, каб дзяржава нас больш чула, разумела і падтрымлівала, бо з-за фінансавых перабояў мы не можам агучваць шмат і часта. А людзі патрабуюць. Украінскія ўлады правялі добры эксперымент. У адзін дзень у кінатэатрах ішоў фільм — на рускай і ўкраінскай мовах. Дык вось паслухаць роднае слова прыйшло нашмат больш людзей… Хочацца, каб падобная практыка была ў нас не выключэннем, а правілам. Я асабіста ведаю людзей, што прыйшлі да мяне і сказалі, што пасля паказаў іх жыццё змянілася. Такое грэе душу. Мы праводзім шмат апытанняў, людзі выказваюцца, даюць парады, зваротная сувязь існуе, і яна вельмі моцная», — падвёў вынік Андрэй Кім.

**Марыя ВОЙЦІК**

# На радзіме Вердзі і Даніцэці

**Трапляючы ў мала вядомую мне культурную прастору, заўжды дзіўлюся, наколькі абмежаваныя нашы веды: або прыблізна-схематычныя, або фрагментарныя. Цудоўна, калі рэальнасць тую схему напаўняе ўражаннямі, размалёўвае неспадзявана і ярка. Сёлета пашчасціла трапіць у два невялікія, але старадаўнія італьянскія гарады — Парму і Бергама.**



Парма. Кафедральны сабор.

## ПОБАЧ З ГЕРЦАГСКІМ ПАРКАМ

Выпраўляючыся ў першы горад, згадала толькі назву рамана Стэндаля «Пармскі прытулак». Ведала, што горад даў назву знакамітаму сыру Пармезан, што існуе шмат сартоў на дзіва смачнай пармскай вяндліны. Але ўсё ж найперш мяне цікавілі праявы і помнікі музычнай і тэатральнай культуры.




Музей Артура Тасканіні.

Са здзіўленнем дазналася: Парму многія знаўцы лічаць сапраўднай музычнай сталіцай Італіі. Найперш гэта радзіма знакамітага на ўвесь свет дырыжора Артура Тасканіні. Таму, апынуўшыся ў горадзе, спярша выправілася ў бок яго Дома-музея. Праз гістарычны цэнтр, потым мост Джузэпэ Вердзі. Рака Парма нешырокая, абмялелая, рэчышча і берагі зараслі кустоўем і дрэвамі. Часам яе выгляд нагадваў рачулкі ў нашых раённых цэнтрах.

Невялічкі музей у тры паверхі, драўляныя ўваходныя дзверы. На жаль, прыйшла я не надта ўдала. Панядзелак — выхадны. Агледзела сціплы, без усялякіх аздабленняў фасад. Толькі расцяжка з тканіны з назвай музея. Слава дырыжора з сусветным імем і такая строгасць дома нават здзівілі. Ды, магчыма, прастата і веліч непадзельныя? Недалёка ад музея — Герцарскі замак і парк з такой жа назвай, якому ажно пяць стагоддзяў. Уздоўж алеяў высяцца велізарныя платаны ў тры абхваты, па шырозных алеях час ад часу крочаць мінакі або з'яўляюцца веласіпедысты. У траве гучна стракочуць цыкады. Пэўна, тыя платаны, толькі крыху меншыя, мог бачыць у дзяцінстве і будучы дырыжор.

У Парме з насельніцтвам у 175 тысяч (гэта менш, чым у нашым Бабруйску, і больш, чым у Баранавічах) існуе «Фонд Артура Тасканіні». Створаны пры канцы мінулага стагоддзя, ён аб'ядноўвае філармонію, аркестр, хор і Музычную акадэмію Вердзі — Тасканіні.

## СТВОРАНАЯ ЖОНКАЙ НАПАЛЕОНА

…Аглядаць італьянскі горад менавіта раніцой — суцэльная асалода! Бо яшчэ не далёка дзённая спёка і паўсюль прахалода. Мясцовыя жыхары спяшаюцца: хто ў офіс, хто ў царкву на ранішнюю службу. А я крочу ў бок плошчы Арыга Бойта. Бо побач з ёй знаходзіцца і Пармская кансерваторыя, якая мае імя гэтага вядомага кампазітара і паэта. У нас Бойта згадваюць найперш як аўтара оперы «Мефістофель», напісанай на сюжэт гётэўскага «Фаўста». Галоўная партыя ў ёй некалі была адной з каронных у рэпертуары Фёдара Шаляпіна. Але Бойта знакаміты і тым, што ён — лібрэтыст некалькіх выдатных опер Вердзі: «Сімон Баканегра», «Атэла», «Фальстаф».

Шмат цяністых дрэў буяе на невялікай, сапраўды адухоўленай прасторы плошчы. Не першы раз заўважаю, што назва і прысвячэнні, асабліва звязаныя з музыкай, моцна ўплываюць на энергетыку пэўнага кутка. У Італіі кансерваторыя можа даваць і сярэднюю, і вышэйшую музычную адукацыю. Са здзіўленнем даведалася: амаль два стагоддзі таму Марыя-Луіза Аўстрыйская, другая жонка Напалеона, заснавала ў Парме Герцагскую школу спеваў. А кансерваторыя ў сучасным сэнсе слова ўзнікла амаль 130 гадоў таму. Джузэпэ Вердзі ў якасці кансультанта даў параду, хто ўзначаліць установу. Другім ці трэцім па ліку кіраўніком стаў Арыга Бойта. Сярод славутых выпускнікоў кансерваторыі — ужо згаданы Тасканіні.

Агледзеўшы будынак навучальнай установы, звяртаю ўвагу на вітрыну музычнай крамы. На ёй — аб'ёмныя манаграфіі, прысвечаныя нацыянальным геніям Вердзі і Пучыні. Камплекты і асобныя дыскі з запісамі самых запатрабаваных оперных спевакоў сучаснасці. Як ні дзіўна, сярод іх дамінуюць тэнары: Ёнас Каўфман, Леа Нучы, Эрвін Шрот. Бачу адметны дыск: аркестр пад кіраўніцтвам брытанска-амерыканскага дырыжора Леапольда Стакоўскага выконвае творы Ігара Стравінскага, кампазітара з беларускімі каранямі.

Досыць сціплая англійская мова дапамагае мне паразумецца з гаспадаром крамы. Пра Беларусь ён не ведае. Тлумачу: «Расія знаходзіцца паміж маёй краінай і Кітаем». Так прасцей і — пераконвае. Даведаўшыся, адкуль я, гаспадар шукае, якую ж музычную прадукцыю прапанаваць. Уласнабеларускай няма, затое ёсць відэаверсіі балетных спектакляў «Лебядзінае возера», «Жызэль» і «Раймонда». У галоўных партыях — знакаміты італьянскі танцоўшчык Раберта Боле і расійская зорка Святлана Захарава. Прадукцыя зваблівая, але не надта танная. Тры дыскі — амаль 90 еўра. Здаволіўшыся буклетам пра Пармскі оперны тэатр, развітваюся з прыязным гаспадаром.

Нагадаю яшчэ пра адну вядомую асобу, трывала звязаную з Пармай і яе музычнай гісторыяй. Гэта, як ні дзіўна, Нікола Паганіні. У 1835 і 1836 гадах славуты скрыпач кіраваў у горадзе прыдворным Герцагскім аркестрам. Распрацаваў план яго рэарганізацыі, заснаваў Музычную акадэмію, штогадовыя абанементы сімфанічных аркестраў. Многія памятаюць трагічную гісторыю смерці і пахавання музыканта. Толькі праз стагоддзе пасля смерці Паганіні знайшоў вечны спачын. І менавіта ў Парме, на могілках Вілета. А ў гонар славутага выканаўцы названая сучасная музычная зала на 800 слухачоў — Аўдыторыум Паганіні, — якая мае выдатную акустыку.

## «ФЕСТЫВАЛЬ ВЕРДЗІ»

Відаць, самая маштабная постаць, трывала звязаная з Пармай, — Джузэпэ Вердзі, італьянскі геній, класік сусветнай музыкі. Нядаўна даведалася, што Парму ён лічыў сваім любімым горадам. Для гэтага мелася шмат прычын. Недалёка знаходзіцца вёска Ле Ранкале, дзе ён нарадзіўся ў беднай сям'і (яготы бацька трымаў шынок, а маці была папрадухай). Недалёка і горад Бусета, дзе спадар Вердзі навучаўся музыцы і знайшоў падтрымку ў асобе Антоніа Барэцы. Цяпер у Бусета ёсць тэатр, які мае імя кампазітара. Глядзельная зала ў ім невялікая, камерная, але сам будынак ажно трох'ярусны, на столі шыкоўны роспіс. Тут ладзяцца спектаклі і вакальныя



Мемарыял Джузэпэ Вердзі.

конкурсы. Недалёка ад Бусета знаходзіцца і віла Сант-Агата, дзе Вердзі са сваёй другой жонкай, спявачкай Джузэпінай Стрэпоні, пражыў амаль паўстагоддзя, пачынаючы з 1850 года. Тут былі напісаны многія яго выдатныя оперныя партытуры, і да сёння запатрабаваныя самымі славутымі тэатрамі свету. Цяпер віла — прыватная ўласнасць, так проста туды не патрапіш.

Але вярнуся да пармскіх уражанняў. Як толькі трапляеш у горад — вуліца Вердзі. У гістарычнай частцы — мемарыял, прысвечаны спадару Вердзі. Узнікае ўражанне, што кампазітар знаходзіцца ў атачэнні герояў уласных твораў.

Старая частка горада вельмі ўражвае. Подых даўніны адчуваецца на кожным кроку, літаральна лунае ў паветры. Мо таму, што гэта былое гальскае паселішча, якое належала этрускам. Мо таму, што ў другім стагоддзі да нашай эры яно ператваралася ў рымскую калонію. Праз гэты горад праходзілі войскі Марка Антонія і пакінулі адны руіны. Гістарычны экскурс можна доўжыць і доўжыць.

У Парме шмат палацаў і культавых будынкаў гатычнага стылю, эпохі барока, пазнейшых кірункаў. Невыпадкова Парму называлі «італьянскімі Афінамі». Надоўга застаецца ў памяці Кафедральны сабор і Баптыстэрый на плошчы Дуома. Апошні, пабудаваны з ружовага мармуру пры канцы XII стагоддзя, лічыцца адным з самых дзівосных збудаванняў італьянскага сярэднявечча. Баптыстэрый здольны мяняць колер у залежнасці ад асвятлення, у чым я пераканалася, пабачыўшы яго вечарам і назаўтра раніцой. Гэтымі славутымі архітэктурнымі помнікамі мог захапляцца спадар Вердзі, думаю, яны сапраўды яго натхнялі. А інтарэс сучаснага падарожніка ўзмацняе тая акалічнасць, што збудаванні мінулых вякоў цудоўна захаваліся.

На *strada* Гарыбальдзі, адной з асноўных вуліц горада, разглядаю строгі фасад тэатра Рэджа. Уражвае моцны кантраст паміж стрыманасцю экстэр'ера, вытрыманага ў стылі неакласіцызму, і пышнасцю інтэр'ераў, глядзельнай залы з пяццю ярусамі крэслаў. Не адвесці вачэй ад пазалоты ляпніны і чырвані абіўкі, шыкоўнай свяцільні і роспісаў на столі. Тэатр Рэджа, або Герцагскі, быў пабудаваны ў 30-я гады XIX стагоддзя па волі ўсё той жа Марыі Луізы. На яго ўрачыстым адкрыцці была паказана опера «Заіра» Беліні. У тэатры Рэджа ставіліся ўсе оперы вялікага Вердзі.

Пачынаючы з 1990 года, у Парме ладзіцца вельмі прэстыжны міжнародны оперны «Фестываль Вердзі». Адбываецца штогод у кастрычніку, калі нарадзіўся кампазітар. Месцам правядзення фэсту становяцца некалькі пляцовак: Тэатр Фарнэзэ, Каралеўскі тэатр Пармы, а таксама Тэатр Джузэпэ Вердзі ў Бусета. Сёлета фестываль будзе прысвечаны нямецкаму паэту і драматургу Фрыдрыху Шылеру, чые творы натхнялі кампазітара.

Уважліва разглядаю афішу перад будынкам Рэджа. Што оперныя фанаты ўбачаць і пачуюць сёлета ў кастрычніку? Новыя версіі чатырох опер Вердзі: «Дон Карлас», «Жана д'Арк», «Разбойнікі», «Трубадур», музычнае гала, прысвечанае Шылеру, іншыя праекты.

Цікава, што ў красавіку наступнага года ў тэатры Рэджа адбудзецца харэаграфічны фестываль «*Parmadanza 2017*». Абліччa танцоўшчыка на агульнай афішы падалося на дзіва знаёмым! Высветліла, што ў праграму фэсту сярод іншага ўвойдзе праект «Іван Васільеў і сябры». Нечакана і ўсцешна! Нагадаю, Іван — выпускнік Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Менавіта ў Мінску пачынаўся зорны шлях саліста, запатрабаванага сёння найбуйнейшымі балетнымі трупамі свету: ад Пецярбурга да Нью-Ёрка.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**
**фота аўтара.**

***Працяг тэмы ў наступным нумары.***

# Пасажыры жыццёвага мора

**Калі шэраг абсалютна розных па характары, вобразе жыцця і ўзросце людзей на адным судне адправіць у далёкае падарожжа, атрымаецца драма Стэнлі Крамера «Карабель дурняў». Выстаўка мініяцюрных скульптур з такой жа назвай і падобнай канцэпцыяй прадстаўлена ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.**

«Пасажыры» мастачкі і ў мінулым тэатральнага мадэльера Маргарыты Дабрынінай — старыя ў доўгіх паліто, пажылыя, але вельмі пяшчотныя пары, жабракі са стомленай усмешкай, жанчыны сярэдняга ўзросту, што яшчэ адчуваюць сябе дзяўчатамі, красуні, шчыльна «загорнутыя» ў пышныя сукенкі, вясёлыя арлекіны і безтурботныя танцоркі. Кожны, апрануўшы свой касцюм, спрабуе ўцячы ад руціннасці лёсу. Куды яны ідуць і навошта? Пра што іх надзеі? Гледачы разважаюць пра гэта самі, па-свойму. Работы нават не падпісаны, што падразумявае поўную свабоду тлумачэнняў.

Скульптура малой формы, якую выкарыстоўвае Маргарыта Дабрыніна, — жанр для асобнай гутаркі. Адзін з галоўных крытэрыяў: вышыня твора павінна быць да васьмідзесяці сантыметраў. Мастачка называе свае працы па-хатняму — лялькамі. Цікава, што ў кожнай унікальны характар і рэальны прататып — чалавек, які натхніў аўтара на стварэнне маленькага керамічнага шэдэўра. Вобразы сімвалічныя, часам гратэскныя, выразна адчуваецца сувязь з драматургіяй, тэатрам, прысутнічае доля гумару, нават сатыры і ў той жа час лёгкага суму, меланхоліі.

Маргарыта Дабрыніна — расійскі аўтар. Яе работы актыўна прадаюцца ў мастацкіх салонах Масквы, некаторыя знаходзяцца ў прыватных калекцыях Расіі, Англіі, Канады, ЗША і Ізраіля. Работы створаны з керамічных мас — фаянсу і гліны розных адценняў. На колеры скульптуры вельмі багатыя. Тэхніка ручной лепкі даволі складаная, бо кожная фігура вытрымлівае карпатлівы працэс нараджэння, ператвараючыся з пластылінавай мадэлі ў адмысловыя распісаную скульптуру.







Моцны эмацыянальны складнік лялек бясспрэчны. Мастак не баіцца эксперыментаў і імправізацый. Многія работы непадзельныя, сабраныя ў матывы з дзвюх або трох кампазіцый. Такі падыход дазваляе перадаць складаныя шматслойныя тэмы. Напрыклад: чалавечыя ўзроставыя метамарфозы, палёт мараў і пачуццяў, што вар'іруецца ад кахання да эгаізму, ад ганарыстасці да адданасці…

Выстаўка «Карабель дурняў» умоўна падзелена на тры часткі. У «Рускім карагодзе» танчаць дамы ў маляўнічых строях мінулых стагоддзяў, «Венецыянскія маскі» распавядаюць пра рамантычны італьянскі горад і яго герояў, паэтаў, мастакоў, музыкантаў. У «Псіхалогіі жаданняў» мастак адлюстроўвае недасканаласць людзей, але і захапляецца імі, падкрэсліваючы шматграннасць натур.

Ці ёсць сувязь выстаўкі з аднайменнай карцінай Гераніма Босха? Спрэчна, але можна сказаць дакладна: у Маргарыты Дабрынінай таксама шмат алегорый, весялосць суседнічае з пародыямі, а сатыра — з блазнерствам. Чаму ж дурні? Можна дапусціць, што гэтае азначэнне ні ў якім разе не насмешлівае, наадварот, мастачка любіць сваіх герояў. Яна ўсяго толькі кажа пра тое, што ніхто з нас не ідэальны, што трэба ўмець ставіцца да сябе з іроніяй, быць сабой насуперак абставінам і не баяцца жаданняў.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

## *Культурны ракурс*



У Карэліцкім раёне акрамя Замкава-паркавага комплексу «Мір» варта звярнуць увагу на Касцёл святой Ганны, што на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі Варончы. Гэта познекласічны барочны храм XVIII стагоддзя. У касцёле былі хрышчоныя Ян Чачот і Марыля Верашчака — каханая Адама Міцкевіча. Марыля тут жа ўзяла шлюб з графам Ваўжынцам Путкамерам. Падчас Вялікай Айчыннай вайны касцёл спалілі, у 1950-я гады ўзарвалі, але храм нейкім цудам часткова ўцалеў. У 1995-м касцёл адбудавалі, і яго дзверы адкрыліся вернікам.

У сілуэце мураванага храма дамінуюць дзве 3-ярусныя купальныя вежы з паўцыркульнымі праёмамі і 3-вугольным франтонам па цэнтры. Галоўны фасад вылучаны прысценным дарычным 6-калонным порцікам з антабламентам, аздоблены рустам, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, бакавыя фасады — стральчатымі, бакавыя паўкруглыя каплічкі — лучковымі і круглымі вокнамі. У інтэр'еры часткова збераглісся цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, што перакрываюць 3 нефы, у алтарнай частцы — насценная размалёўка ў выглядзе архітэктурных куліс.

**Вольга ПІСАРЫК, настаўніца беларускай мовы**
**і літаратуры ДУА «Варанчанскі ВПК**
**дзіцячы сад — сярэдняя школа»**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічваць не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 4.08.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1633.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3018

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686